16 студзеня 2015 | № 2 (419)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Пяць міфаў пра Захад

стар. 6








# Як да Месяца пешкі

## Наўрад ці амбітныя задачы Латвіі ў адносінах да Беларусі будуць выкананыя



Сяргей ПУЛЬША

Афіцыйны часопіс Еўрасаюза «EUObserver» са спасылкай на кіраўніцтва МЗС Латвіі, якая з пачатку гэтага года старшынюе ў Савеце ЕС, агучыў амбітныя планы знешнепалітычнага ведамства гэтай краіны. Напрыклад, кіраўнік латвійскага МЗС Эдгарс Рынкевічс заявіў аб наяўнасці перспектыў у супрацоўніцтве з Беларуссю. Найперш гэта тычыцца перамоваў аб бязвізавым рэжыме для грамадзянаў Беларусі.

Заўважым, што перамовы па спрашчэнні візавага рэжыму ЕС для беларусаў цягнуцца ўжо не адзін год. А напрыканцы 2014-га Алена Купчына, намесніца міністра замежных справаў Беларусі, казала, што гэты працэс няпросты, і перамовы па лібералізацыі візавага рэжыму Беларусі з ЕС весці «дастаткова цяжка».

Паводле слоў дзяржсакратара МЗС Андрэйса Пілдзеговіча, ён спадзяецца ўбачыць у стасунках з Беларуссю «пэўны прагрэс» да саміта Усходняга партнёрства, які павінен прайсці ў маі гэтага года ў Рызе. У мінулым годзе тое ж спадзяванне выказваў Рынкевічс. «Мы абмяркоўвалі, што было б добра, калі б да рыжскага саміта Усходняга партнёрства была заключана дамова аб лібералізацыі візавага рэжыму паміж ЕС і Беларуссю», — цытавала Рынкевічса прэс-служба МЗС РБ.

Амбітныя планы Літвы — невыканальная місія. Па-першае, супраць бязвізавага рэжыму будзе беларускі Памежны камітэт.

З Латвіяй у нас ёсць малы памежны рух, але далей справа не прасоўваецца. Пасол Польшчы Лешак Шарэпка ўжо колькі год спрабуе «адкрыць» такі рух паміж ягонай краінай і «сінявокай». Беларускі бок гэтыя ініцыятывы тармозіць: маўляў, памежныя пункты не гатовыя да наплыву бадзягаў праз польска-беларускую мяжу. Трэба спачатку гэтыя пункты ўладкаваць як след, а ўладкоўваць іх можна бясконца. І менавіта на досвед МПР з Латвіяй спасылаюцца беларускія памежнікі.

А калі візавы рэжым увогуле будзе адменены? Бо гэта ж адкрытае перамяшчэнне праз мяжу не часткі насельніцтва краіны, якая жыве ў памежнай зоне, а ўсіх! На думку беларускіх памежнікаў, мяжа проста «скавырнецца»!

Па-другое, паводле таго ж Пілдзеговіча, спрашчэнне візавага рэжыму ўвязваецца з праблемамі грамадзянскіх свабодаў у краіне. А канкрэтна — з вызваленнем палітычных вязняў. «Мы не будзем пераглядаць сваю пазіцыю па палітвязнях. Мы працягваем аказваць ціск на Беларусь для іх вызвалення. Тое ж тычыцца абароны правоў меншасцяў», — сказаў Пілдзеговіч. Ён адзначыў і важнасць таго, як пройдуць маючыя адбыцца восенню прэзідэнцкія выбары.

Латвія — не такая ўжо далёкая ад Беларусі краіна. Але за 20 год між намі паўстала проста цывілізацыйная прорва. Латышы, падаецца, ужо не разумеюць, што для беларускай улады значыць выпусціць на волю палітвязняў, і не калі-небудзь, а да мая.

Найперш гэта, канешне, тычыцца бескампраміснага экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча. Нават зараз, калі ён у вязніцы, за яго ўжо ствараюць ініцыятыўную групу на вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты. А што будзе, калі ён выйдзе да пачатку прэзідэнцкай кампаніі? Канешне, з непагашанай судзімасцю ён балатавацца ў прэзідэнты не зможа, але ягоны ўваход у каманду дадасць моцы любому апазіцыйнаму кандыдату.




**Перамовы па спрашчэнні візавага рэжыму ўжо не адзін год**

Статкевіч жа — не такі чалавек, каб падчас прэзідэнцкіх выбараў адседжвацца недзе па-сваёй волі.

Пра важныя восеньскія прэзідэнцкія выбары і казаць не варта. Чагосьці такога, дзеля чаго б беларуская ўлада правяла выбары па стандартах ЕС, напэўна, не існуе ў свеце.

На што спадзяюцца латышы ў сваіх летуценнях пра вызваленне палітвязняў і выбары? На тое, што да чарговай «лібералізацыі» беларускую ўладу змусіць эканоміка. Паводле таго ж Пілдзеговіча, пасля нападу Расіі на Украіну Беларусь усё больш зацікаўлена ў паляпшэнні адносін з ЕС, перш за ўсё ў эканамічнай сферы.

Але ж гэта мы ўжо праходзілі. Беларуская ўлада дзеля грошай гатовая лібералізаваць усё, што можна, але не палітычную сферу. Яна падпішацца пад усё, што заўгодна, абы ёй далі грошай. Але нічога з падпісанага выконваць не будзе. Альбо выканае так, што лепш бы не выконвала.

Дзеля чаго ж Латвія ставіць перад сабою звышмэту, якую яна яўна не дасягне за ўсяго паўгады старшынства ў Савеце ЕС? Ёсць тут адна прычына. Латвійскі дыпламат Юрыс Пойканс, які займаецца супрацоўніцтвам з былымі рэспублікамі СССР у рамках Усходняга партнёрства, заявіў, што на саміце ў Рызе Беларусь у чарговы раз хоча быць прадстаўлена на вышэйшым узроўні. То бок, каб на гэты саміт паехаў Аляксандр Лукашэнка. Гэта было б лагічна, калі б ён, а не хто іншы, падпісаў бы дамову пра бязвізавы рэжым ці пагадненне па змякчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС.

Напэўна, Аляксандра Рыгоравіча ў афіцыйным статусе на саміце УП у Рызе бачыць не жадаюць. Верагодна, таму і выстаўленыя невыканальныя для беларускай улады ўмовы «візавай лібералізацыі». Зразумела, што палітвязняў ніхто вызваляць не будзе, а значыць, кіраўнік Беларусі «пралятае міма Рыгі». Латвія сваю задачу на недапуску Лукашэнкі на прасторы ЕС выканае.

Але ж адначасна на няпэўны тэрмін адсоўваецца і пытанне спрашчэння візавага рэжыму Беларусі і ЕС. І зноў да такога спрашчэння беларускім грамадзянам, — як да Месяца пешкі.

# Заява рэдакцыі «Новага часу»

У гісторыі паводзін ахоўніка крамы «777» Дзмітрыя Прохарава ў адносінах да распаўсюдніка газеты «Новы час» 75-гадовага Віктара Чэравухіна, што сталася прадметам судовай справы, па сутнасці адлюстравался грамадска-палітычная сітуацыя, якая гадамі складвалася ў Беларусі. І якая атрымала новыя істотныя адценні ў сувязі з падзеямі ва Украіне.

З усіх абставін справы і выказванняў Дзмітрыя Прохарава на судзе відавочна, што «Новы час» ён ніколі не чытаў і ацэнкі газеты як фашысцкай выводзіць выключна зыходзячы з беларускай мовы і свайго адмоўнага ўспрыняцця журналістаў незалежных СМІ як «бэнээфаўцаў».

Гэтая ацэнка даецца ім не па аб'ектыўных крытэрах, вызначаных сусветнай супольнасцю на прыкладзе рэжымаў Гітлера і Мусаліні, а пад відавочным уплывам сучаснай расійскай прапаганды адносна ўкраінскай дзяржавы ў яе змаганні з баевікамі так званых ДНР і ЛНР.

Мы цалкам падтрымлівалі Віктара Кірылавіча ў яго жаданні праз суд абараніць свае гонар і годнасць. Хаця і не спадзяваліся на тое, што суд прадэманструе сваю незалежнасць і аб'ектыўнасць, выносячы рашэнне. Але нягледзячы на тое, што Дзмітрый Прохараў таксама публічна абразіў наша выданне, мы не будзем з ім судзіцца.

**Па-першае,** мы палічылі занадта дробнай справай пераконваць у відавочным аднаго чалавека марнуючы ў судзе сілы, нервы і час.

**Па-другое,** галоўная справа нашай газеты — гэта аб'ектыўнае інфармаванне і асвета насельніцтва, што само па сабе важней за ўсю калягазетную мітусню і правакацыі звонку.

**Па-трэцяе,** за плячыма рэдакцыі шэраг пераследаў, у тым ліку судовых, з аналагічным гэтаму прадвызначаным вынікам.

Лепшым адказам Прохараву і ўсім, хто зневажае НЧ, ёсць нашы чытачы! **Дзякуй вам за адданасць!**

# Суд стаў на бок ахоўніка

Вікторыя ЧАПЛЕВА, АКСАНА КОЛБ

**Суддзя Кастрычніцкага раёна Магілёва Таццяна Міхайлава 15 студзеня вынесла апраўдальны вердыкт у адносінах да ахоўніка крамы «777» Дзмітрыя Прохарава, які абразіў Віктара Чэравухіна, распаўсюджвальніка газеты «Новы Час».**

Суд палічыў, што доказаў віны ахоўніка прадстаўлена недастакова. Суд не стаў улічваць, што відэазапіс, які б пацвярджаў гэтую віну, быў наўмысна абрэзаны і скапіяваны самім Прохаравым, а сведкі з боку адказчыка па сутнасці нічога сказаць не маглі.

Гэта і не дзіва. Было б дзіўным, калі б суд стаў на бок сталага чалавека, якога публічна абразіў і зневажыў здаровы дзяцюк, які да таго ж знаходзіўся пры выкананнні службовых абавязкаў. А яшчэ было б дзіўна, каб Дзмітрый Прохараў замест таго, каб выкручвацца ў судзе, папрасіў бы прабачэння ў 75-гадовага Віктара Чэравухіна. А так — усё заканамерна.

Нагадаем, ахоўнік крамы «777» Дзмітрый Прохараў па словах пацярпелага, назваў Чэравухіна «фашыстам», а газету «Новы час» — «фашысцкай», пасля чаго выпіхнуў сталага чалавека на вуліцу. Віктар Кірылавіч звярнуўся ў міліцыю, дзе на ахоўніка быў складзены пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні. Прохарава абвінавачвалі па трох артыкулах, сярод якіх — «Хуліганства» і «Абраза». Чэравухін сцвярджў, што з боку ахоўніка мела месца і незаконная фізічная сіла, якая пацягнула за сабой лёгкія цялесныя пашкоджанні.

Першае пасяджэнне 8 студзеня не прынесла ніякіх вынікаў, бо сведкі з боку адказчыка ў суд не з'явіліся.

Другое, 12 студзеня, пачалося з гучных рэплік Прохарава ў бок журналістаў: «Калі «гэтыя» будуць сядзець тут, я наогул нічога не буду казаць. Адразу ж бачна, што яны з БНФ!»

Тым часам у залю суда прыйшоў невядомы, які прадставіўся «вялікім начальнікам на чыгунцы». Ён адкрыў папку з нейкімі сваімі дакументамі і прамовіў: «А вашая газетка-та «Новы Час» пакрывае фашысцкіх злачынцаў. Вы так добра напісалі пра фашысцкую лідарку Ларысу Геніюш!» Потым ён дэманстратыўна перацягнуў крэсла да падсуднага і на працягу ўсяго пасяджэння нешта пісаў, маляваў на паперы і падсоўваў ахоўніку. Зрэшты, сам Прохараў не вытрымаў і звярнуўся да невядомага са словамі: «А што вы прычапіліся да мяне?»

Чэравухін склаў спіс пытанняў, які ўжо пачаў задаваць падсуднаму, як апошні вырашыў зрабіць заяву: «Ні на адно пытанне я адказваць не буду, пакуль «гэтыя» (ён кіўнуў на журналістаў) знаходзяцца тут. Яны ў сваіх газетах пішуць тое, што захочуць, пераварочваючы ўсё, што толькі можна. Я прашу, каб нікога з іх тут не было. Я не буду адказваць на пытанні, бо яны тут сядзяць. Вунь, яны ўсміхаюцца і пішуць усялякую ахінею. Гэты (кіўнуў на Невядомага) ходзіць туды-сюды па зале і падсоўвае мне нейкія свае паперы, каб я прачытаў... Наогул, ёсць пэўныя людзі-асведамляльнікі, якія працуюць на органы. Ад іх я даведаўся, што гэта поўнасцю арганізаваныя акцыя і піяр, таму я не збіраюся нічога казаць».

Але суддзя адхіліла хадайніцтва Прохарава аб правядзенні пасяджэння ў закрытым рэжыме.

«Апошнюю газету «Новы Час» я прыносіў у краму 29 лістапада, распавёў суду Віктар Чэравухін. — Прыносіў, бо ахоўнікі бралі яе. Я заўжды прыношу «Новы Час» па суботах, бо менавіта ў гэты дзень яна прыходзіць з Мінску да нас у Магілёў. Інцыдэнт адбыўся 5 снежня — гэта была пятніца, і ніякіх газет у мяне не было. Я проста купіў прадукты і збіраўся ўжо сыходзіць дадому. У гэты час са службовага памяшкання выйшаў ахоўнік і крыкнуў мне: «Чуеш, мужык, не прынось больш у краму фашысцкія газеты». Я абурыўся, бо хацеў даказаць, што «Новы Час» — гэта ніякая не фашысцкая газета. Пачалася сварка, у выніку якой ахоўнік выштурхаў мяне на вуліцу, пашкодзіўшы мне нагу і падрапаўшы руку».

Аднак версія сведкаў з боку адказчыка была іншай. Святлана Астроўская, касірка, пачула за спіной: «Дзядуля, тут распаўсюджваць ніякую літаратуру нельга». Людміла Драздова, прадавачка ў гэтай жа краме, пачула: «Дзядуля, не распаўсюджвайце ў нас газеты!». Але сведкі не маглі сказаць, ці былі ў руках пацярпелага якія-небудзь газеты.

Святло на тое, што на самай справе адбылося ў краме, павінен быў праліць відэазапіс. Але на запісу быў бачны толькі той фрагмент, калі ахоўнік выводзіць пацярпелага з крамы. Усхваляваны Чэравухін пачаў паясняць: «Вось зараз ахоўнік вернецца ў краму, а праз момант вярнуся і я, каб падняць з падлогі прадукты». Сапраўды, Прохараў вярнуўся з вуліцы, пасля чаго відэазапіс абарваўся». Суддзя запытала Прохарава: «Вы пазнаяце сябе на гэтым відэа?» Той кінуў: «Канешне! Я ж сваімі рукамі яго капіраваў».

Нарэшце, на пасяджэнні 15 студзеня, выслухаўшы пацярпелага, суддзя прыняла рашэнне, што доказаў віны ахоўніка недастаткова.

# Курапаты: не губляйце пільнасці

Марат ГАРАВЫ

**Вяртанне сітуацыі ў прававое поле і надалей будзе асноўным накірункам дзейнасці экспертаў у абарону Курапатаў. Пра гэта яны заявілі на прэс-канферэнцыі з нагоды зацвярджэння Міністэрствам культуры праекту зонаў аховы Курапатаў.**

Прадстаўнікі грамадскасці падкрэслілі, што ўрэшце працэс забудовы тэрыторыі каля Курапатаў уведзены ў прававое поле. Уся праектная дакументацыя па будаўніцтву, да прыкладу, Міжнароднага выставачнага комплексу, запланаванага на полі паміж урочышчам і вуліцай імя Пятра Мірашнічэнкі, будзе распрацоўвацца адпаведна зацверджанага праекту зонаў аховы Курапатаў.

Сярод плюсаў гэтага праекту былі таксама названыя павялічэнне плошчы самой нерухомай матэрыяльнай гістарычна-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэнне «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў ва ўрочышчы Курапаты», уключэнне ў склад ахоўнай зоны народнага мемарыялу «Дарогі смерці». Апроч таго, праект парушыў першапачатковыя планы забудовы ўсходняй часткі ахоўнай зоны каштоўнасці, а таксама паставіў заслону перад тымі, хто марыў пра ласыя кавалкі зямлі уздоўж МКАД.

Эксперты звярнулі ўвагу і на мінусы. Сярод іх — зняцце статусу зоны рэгуляванай забудовы з катэджнага пасёлку «Сонечны», выключэнне з ахоўнай зоны часткі МКАД, а таксама змяншэнне ахоўнай зоны з поўначы і захаду ад Курапатаў, дзе, прынамсі, адбылося ўзаконьванне будаўніцтва аб'екту прыдарожнага сервісу з былой назвай «Бульбаш-хол».

На прэс-канферэнцыі ўзнімалася і пытанне ўсходняй мяжы ахоўнай зоны Курапатаў. Справа ў тым, што распрацоўшчык праекту прапанаваў усталяваць мяжу на адлегласці ў 240 метраў ад ускрайку Курапацкага лесу. Такая адлегласць гарантавала захаванасць «Дарогі смеерці», дазваляла б яе будучую мемарыялізацыю і стварала буферную зону паміж дарогай і сучаснай забудовай з усходняга боку. У зацверджаным Мінкультуры праекце мяжа прывязана да адзнакі: шэсць метраў на ўсход ад адсутнай на мясцовасці «Дарогі смерці», якая вызначана на мапах і праглядаецца з космасу. Пакінута прыблізная (звычайна ў нарматыўна-прававых актах такая тэрміналогія не ўжываецца) прывязка да Курапацкага лесу ў 240 м. Але рэальна зацверджаная мяжа ахоўнай зоны бліжэй да лесу на 20–50 м. Такім чынам, згодна праекту, ўсходняя мяжа ахоўнай зоны дакладна не прывязаная.

Вось чаму Вінцук Вячорка заклікаў грамадскасць быць пільнай, каб у гэтай частцы ахоўнай зоны не дапусціць спробаў парушэння яе мяжы.

А грамадскі дзеяч, культуролаг Вацлаў Арэшка прапанаваў правесці адмысловыя акцыі па вызначэнню на мясцовасці межаў «Дарогі смерці» і ахоўнай зоны ўздоўж яе.

# Мікола Статкевіч: «Беларусь — вось мая справа»

Аляксей КАРОЛЬ

**Днямі я атрымаў віншавальную паштоўку з Калядамі і Новым годам ад Міколы Статкевіча. Яшчэ з турмы, да пераводу ў Шклоўскую калонію, аб чым ён паведамляе сярод іншага.**

Я вельмі ўзрадаваўся паштоўцы: значыць, легендарны ўжо палітык і палітычны вязень дамогся, што яго кантакты з вольным светам, яго правы на перапіску і атрыманне інфармацыі так брутальна ўжо не блакуюцца.

Па сутнасці, гэта пацвердзіў і Мікола, нагадаўшы гісторыю нашай барацьбы за атрыманне ім газеты «Новы час». «Дзякую за падтрымку, — напісаў ён, — якую бачу ў тваёй газеце, бо хутка ўжо два гады атрымоўваю яе без перапынкаў. Праўда, два гады гэта было немагчыма і прыйшлося прыкласці шмат намаганняў, каб таго дамагчыся».

Сярод іншага ў паштоўцы ад Міколы выказваюцца меркаванні, якія з прычыны іх грамадскай значнасці, на мой погляд, неабходна апублікаваць. Вось яны.

«Наконт справы для мяне на волі, — піша лідар сацыял-дэмакратаў і экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта, — можна будзе казаць, калі я на той волі апынуся. Беларусь — вось мая справа». Ён падзякаваў за ўпэўненасць у яго хуткім вызваленні, але з сумнай іроніяй адзначыў, што такія прагнозы чуе «болей за тры гады», намаляваўшы ў гэтым месцы смайлік ☺.

І з той жа лёгкай іроніяй працягнуў: «Але пакуль што выпусціць мяне баяцца. Нават ахвяруюць з-за гэтага магчымасцю атрымаць заходнія крэдыты, каб датрываць без яшчэ большай дэвальвацыі да выбараў. Міжволі пачынаеш гадаць, ці гэта я такі жахлівы зрабіўся, ці гэта на волі з лідарамі зараз усё так кепска? ☺».

І ўжо жорстка і адназначна яшчэ раз адзначыў даўно ім сцверджанае не проста словамі, а ўчынкамі: «У любым выпадку, я на прагнозы не замарочваюся — буду сядзець колькі спатрэбіцца, і «прашэнне» ад мяне ніхто не дачакаецца».

Адзначыў Мікола таксама, што адчувае сябе добра, «праўда, дзеля гэтага прыходзіцца шмат працаваць, бо ўтрыманне ў камеры на працягу 3,5 гадоў (калі лічыць паўгода СІЗА) здароўя не дадае. Таму штодзённа трэніруюся».

Яшчэ адзін цікавы штрых, які сведчыць пра яго палітычны аптымізм і духоўную ўстойлівасць: Мікола скончыў цыкл англійскай мовы на курсах ЕШКО з адзнакай выдатна, пракаментаваўшы гэту падзею тым жа смайлікам.

І супакоіў на развітанне: «Трымайся. Усё будзе добра».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Коцімся ў палонку

Сяргей САЛАЎЁЎ

**З мінулага года ўсёагульная цікаўнасць прыкаваная да курсу валютаў. Ледзьве не кожны дзень у народа адно пытанне: калі і па якім курсе з'явяцца замежныя грошы ў абменніках? Але грошы — гэта толькі адзін са складнікаў злучаных пасудзінаў усёй эканамічнай сістэмы.**




Нацбанк дзейнічае ў звычайным ключы, спрабуючы даць палёгку ўсёй эканоміцы, і фактычна, робіць тое, пра што казалі незалежныя эканамісты і эксперты ўвесь мінулы год. За мінулы тыдзень галоўнае фінансавае ведамства прыняло шэраг рашэнняў, якія павінны падштурхнуць краіну да выхаду з таго калапсу, у якім яна загразла.

Найперш, Нацбанк параіў банкам знізіць стаўкі па дэпазітах. На фоне ранейшага абвалу беларускага рубля ён патрабаваў іншае — прыцягваць грошы насельніцтва пад шалёныя стаўкі, якія заходзілі за 50% гадавых. Зараз рэгулятар зразумеў, што ў такім выпадку крэдыты будуць «каштаваць» не менш чым 60%. І іх ніхто браць не будзе. Таму і была выдадзеная новая дырэктыва, і дэпазітныя стаўкі пайшлі ўніз.

Гэта значыць, што ўніз пайшлі і крэдытныя працэнты. То бок, лягчэй узяць крэдыт прадпрыемству і аднавіць сваю дзейнасць. Гэта разумна.

У той жа час Нацбанк, як і было спрагназавана тымі ж незалежнымі эканамістамі, на 30% дэвальвацыі не спыніўся. У сераду, 14 студзеня, на Беларускай валютна-фондавай біржы рубель спусціўся адразу на 4,7%, пераскгнуўшы новую псіхалагічную мяжу ў 15 тысячаў за долар. Такім чынам, распачатая 18 снежня мінулага года дэвальвацыя беларускага рубля ўжо склала амаль 38%.

Чым ніжэй падае рубель, тым далей мы ад "абяцанага гарантаванага заробку" ў $500. Пра тое, што ў гэтым годзе Чацверты ўсебеларускі сход 2010 года нам абяцаў заробак пад $1000, казаць і не варта.

Затое дэвальвацыя імкліва абясцэньвае нашы складскія запасы, і больш шансаў ад іх пазбавіцца, то бок прадаць гэтую прадукцыю, атрымаўшы хоць і зменшаныя, але ж грошы.

Але па-ранейшаму ва ўрадзе, нават у абноўленым Аляксандрам Рыгоравічам напярэдадні 2015-га, — «плюралізм у адной галаве». Пакуль Нацбанк імкнецца ратаваць беларускія прадпрыемствы, Міністэрства гандлю працягвае спробы пакласці іх у труну і як мага хутчэй закапаць.

Мы ўжо пісалі пра «калядны падарунак» Аляксандра Лукашэнкі, які забараніў падымаць кошты да 15 студзеня, каб беларусы маглі годна адсвяткаваць Новы год. І казалі, што на фоне росту курсу долара такое рашэнне забівае імпарцёраў. Мінгандаль пайшоў далей, і забараніў падымаць кошты не толькі да 15 студзеня, а ўвогуле.

«Пастановай Савета Міністраў Беларусі ад 19 снежня 2014 №1207 «Аб некаторых пытаннях спажывецкага рынку» усталявана забарона на павышэнне коштаў. Пры гэтым тэрмін яе (пастановы — аўт.) дзеяння не абмежаваны часавымі рамкамі. Такім чынам, суб'екты прадпрымальніцкай дзейнасці пры фарміраванні цэн на спажывецкія тавары абавязаны кіравацца дзейным заканадаўствам аб цэнаўтварэнні, у тым ліку пастановай №1207», — гаворыцца ў паведамленні Мінгандлю РБ.

То бок, кошты забаронена павышаць увогуле! І гэта, як казалася раней, труна прамысловасці. Таму што эканамічныя пасудзіны — злучаныя.

Наша эканоміка, як кажуць у вядомым інтэрнэт-меме, «крыху меней чым поўнасцю» залежыць ад імпарту. Зайдзіце ў краму, паглядзіце. Яблыкі — польскія, грушы — італьянскія, маянэз — расійскі, сланечнікавы алей — украінскі. Нават хлеб у нас напалову імпартны. І электрычнасць — не цалкам свая. Як на тыдні паведаміла прэс-сакратар Міністэрства энергетыкі Беларусі Жанна Зянькевіч, Беларусь плануе ў гэтым годзе імпартаваць з Расіі каля 2,8 млрд. кВт/гадзінаў электраэнергіі.

Калі не падвышаць кошты на прадукцыю, якая мае ў сабе «доларавы складнік» (а гэта, як высвятляецца, амаль усё), як працаваць вытворцам? Долар даражэе, выдаткі на вытворчасць узрастаюць. Вось 13 студзеня павысілася цана бензіну, не крытычна, але на 4,7%. Зараз літр «эталоннага» АІ-92 (К5) каштуе 11.100 рублёў супраць 10.600 раней. А гэта ўсё — выдаткі, прынамсі, на тое, каб развезці прадукцыю па крамах!

Выдаткі, як ужо казалася, растуць, прыбытак з-за замарозкі цэнаў — на нулі, калі не ў мінусе. У выніку той самы «рэальны сектар», якім мы так ганарыліся, проста збанкрувваецца. А хто будзе ратаваць яго ад гэтага банкруцтва? Найперш, той жа самы Нацбанк, разам з астатнім урадам, даруючы прадпрыемствам «незваротныя» крэдыты, і выдаючы ім новыя.

Але адкуль возьмуцца грошы на гэтыя незваротныя крэдыты? Нічога не застанецца, як уключыць друкарскі станок, нарабіць новых грошай, і зноў — прывітанне, інфляцыя, і новая дэвальвацыя! «Пасудзіны» ж злучаныя, і неразрыўныя, як Штаты.

Можа быць, Мінгандаль яшчэ разбярэцца ў гэтай сітуэвіне і, калі апынецца ў халоднай палонцы, будзе больш цвяроза і глабальна глядзець на рэчы.

Але ва ўсім трэба шукаць не толькі адмоўнае, але і станоўчае. Валютна-фінансавы крызіс ударыў не толькі па шараговых беларусах і беларускаму бізнэсу. Пад ягоны каток трапіў і іншы «бізнэс». Як паведаміў у сераду ў Мінску на прэс-канферэнцыі начальнік Галоўнага ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС Васіль Лосіч, у крызісе апынуліся беларускія наркагандляры. Паводле яговых словаў, айчынныя «распаўсюднікі смерці» зазналі дэфіцыт кадраў. «Мы сталі выходзіць на аб'явы, калі распаўсюднікі наркотыкаў ужо шукаюць «закладнікаў» (тых, хто робіць «закладкі» разавых дозаў наркотыкаў у схованках)», — паведаміў Лосіч. Ён адзначыў, што наркараспаўсюджвальнікі маюць зараз «дэфіцыт» у такой «пяхоце» і спрабуюць у сваіх аб'явах прыцягнуць «пешак» заробкамі і бонусамі.

Праўда, які «сацпакет» у наркагандляроў, Лосіч не агучыў. Але, паводле новага дэкрэту, які пачаў дзейнічаць з 1 студзеня, за распаўсюд наркотыкаў можна атрымаць ад 8 да 25 год «дзяржаўнага ўтрымання».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алена Танкачова



**Суд Першамайскага раёна Мінска адмовіў праваабаронцы ў задавальненні скаргі на рашэнне раённага ўпраўлення ўнутраных спраў аб высылцы яе з Беларусі.**

5 лістапада мінулага года УУС Першамайскага раёна прадпісала Алене Танкачовай на працягу месяца пакінуць Беларусь і забараніла ёй наведваць краіну ў бліжэйшыя тры гады. Падставай для такога рашэння сталі зафіксаваныя відэакамерамі факты нязначнага перавышэння хуткасці аўтамабілем, які належыць Танкачовай.

Праваабаронца прасіла суд адмяніць рашэнне аб яе высылцы, як прынятае на падставе ўяўных пагроз. Міліцыя зыходзіць з таго, што яна «кіравала сродкам падвышанай небяспекі, парушыўшы правілы дарожнага руху, што магло прывесці да прычынення грамадзянам цялеснага пашкоджання ці пацягнуць іх смерць». «Але я за ўсё сваё жыццё ні разу не рабіла дзеянняў, якія пацягнулі б прычыненне шкоды здароўю грамадзян. Таму абгрунтаванне органаў унутраных спраў заснавана на ўяўнай пагрозе, якую нельга лічыць праўдзівай», — сказала Танкачова.

Танкачова пражывае ў Беларусі каля 30 гадоў. На працягу 20 гадоў Танкачова і ўзначалены ёю Цэнтр прававой трансфармацыі аказваюць прафесійную юрыдычную і экспертную падтрымку некамерцыйным арганізацыям Беларусі, а таксама ў сітуацыях з парушэннямі правоў чалавека. Грамадскія актывісты сабралі сем тысяч подпісаў пад просьбай не высылаць Танкачову. Прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці лічаць дзеянні ўладаў палітычна матываванай санкцыяй, звязанай з праваабарончай дзейнасцю Танкачовай.

## Алег Трусаў



**Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ініцыюе змены ў беларускае моўнае заканадаўства.**

Аказалася, што новастворны Еўразійскі эканамічны саюз можа канчаткова знішчыць беларускую мову.

Як паведаміў Трусаў у каментары для радыё «Рацыя», па новых правілах ЕАЭС усе тавары, выробленыя на тэрыторыі ЕАЭС, павінны афармляцца на вокладках і ўпакоўцы па-руску. Па-руску таксама павінна і рэкламавацца прадукцыя, а беларуская мова застаецца як факультатыўная. «Гэты Еўразійскі саюз забівае нашу мову «на корані». І калі мы не зменім зараз Закон аб мовах, то беларуская мова з рэкламы знікне назаўсёды. І таму мы хочам зноў падняць гэтае пытанне. ТБМ было супраць гэтага саюза — і вось наступствы ўжо пачынаюць праяўляцца», — сказаў Трусаў.

ТБМ стварыла адмысловую групу па пытанні заканадаўчай роўнасці беларускай і рускай моў, каб змяніць закон «Аб мовах». Сябры групы прааналізуюць сітуацыю і будуць звяртацца ў беларускі парламент, каб ініцыяваць змены ў законе, і надаць беларускай мове рэальна роўны статус з рускай.

## Яўген Назарэвіч



**Гіравік з Гродна зноў трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса.**

У снежні ў расійскім Архангельску ён усталяваў трэці асабісты рэкорд, на гэты раз у гадзінным марафоне. Назарэвіч за гадзіну ў рыўку падняў 28-кілаграмовую гірю 1 203 разы. Сумарная вага паднятага перавысіла 33 тоны.

Увогуле, мінулы год для гіравіка выдаўся багатым на буйныя перамогі. У маі Яўген Назарэвіч, які працуе электразваршчыкам на заводзе ЖБК ААТ "Гроднапрамбуд", стаў першым жыхаром Гродна, які трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса. Тады на працягу трох дзён гродзенец устанавіў адразу два рэкорды ў рыўку і ў штуршку 24-кілаграмовай гіры, паведамляе «Гродзенская праўда».

У жніўні Яўген Назарэвіч стаў уладальнікам залатых медалёў на Сусветнай алімпіядзе і чэмпіянаце свету па гіравым спорце.

Рэкорд Назарэвіча трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса толькі зараз, таму што на разгляд заяўкі сыходзіць якраз месяц.

# Усе мы Шарлі

**Расстрэл рэдакцыі часопіса «Charlie Hebdo» прымусіў Беларусь яшчэ раз задумацца пра свабоду слова, узгадаць мінулае і задумацца пра будучыню**

Сяргей ПУЛЬША

Нагадаем, 7 студзеня ў офісе рэдакцыі французскага сатырычнага часопіса «Charlie Hebdo» былі расстраляныя 12 чалавек, у тым ліку вядомыя ўсёй Францыі карыкатурысты, і два паліцэйскія, якія паспрабавалі супрацьстаяць тэрарыстам. Гэтая трагедыя паказала, наколькі маленькі свет. Адзін з загінулых журналістаў, Мішэль Рэно, як высветлілася, быў жанаты з гамяльчанкай і нават ладзіў у гомельскай галерэі Вашчанкі персанальную выставу «Падарожжа вакол свету ў 80 фотаздымках».

## Афіцыйная рэакцыя

Афіцыйны Мінск не толькі паспачуваў французскаму народу, але і, карыстаючыся момантам, асудзіў «любыя формы і праявы тэрарызму і экстрэмізму». Прынамсі, пра гэтае асуджэнне гаворыцца ў спачуванні Аляксандра Лукашэнкі, які той 8 студзеня накіраваў французскаму прэзідэнту Франсуа Аланду.

У жалобным мітынгу 11 снежня, на які выйшла каля двух мільёнаў французаў, прыняў удзел беларускі пасол у Францыі Павел Латушка. Але і тут ён не толькі выказваў спачуванні і асуджэнне тэрарызму. Бачна, яго ўразіла колькасць кіраўнікоў дзяржаваў, якія прыляцелі ў гэты дзень у Францыю. Дыпламат мяркуе, што адна толькі прысутнасць кіраўнікоў дзяржаваў на жалобных мерапрыемствах можа быць стымулам для больш глыбокай ацэнкі падзеяў у свеце і выпрацоўцы сумесных падыходаў па нармалізацыі сітуацыі ў канфліктных рэгіёнах — на Блізкім Усходзе і ва Украіне.

## Чалавечая салідарнасць

Пасля тэракту ў Парыжы беларусы ўскладалі кветкі да французскага пасольства ў Мінску: неабыякавыя грамадзяне, прадстаўнікі журналісцкай супольнасці, палітычных арганізацый. Актыўна падтрымалі лозунг «Я — Charlie Hebdo» і беларускія карыстальнікі інтэрнэту.

У Гомелі, у галерэі Вашчанкі адкрылася выстава Мішэля Рэно. Пяць гадоў таму, падчас персанальнай выставы, Рэно падараваў галерэі 10 фотаздымкаў, зробленых у розных кутках Зямлі: у Эфіопіі, Маўрытаніі, Францыі, В'етнаме, Буркіна-Фасо, Інданезіі. Супрацоўнікі галерэі дадалі да Мішэлевых свае здымкі, зробленыя падчас той выставы пяць гадоў таму — і выйшла цэлая экспазіцыя.

Калі парыжане сабраліся на мітынг жалобы і салідарнасці, адпаведныя акцыі прайшлі і ў Беларусі. Па закліку былога рэдактара беларускай сатырычнай газеты «Навінкі», якая была зачынена ўладамі, Паўлюка Канавальчыка, да французскага пасольства ў Мінску прыйшлі некалькі чалавек, якія стаялі з плакатамі «Je suis Charlie».

Зноў жа, і тут мы даведаліся, які цесны свет. Аказалася, што ў свой час газета «Навінкі» супрацоўнічала з «Charlie Hebdo», і нават планавала пераклад і перавыданне французскіх коміксаў на беларускую мову. «Гэтых людзей мы, збольшага, добра ведаем, і таму нас вельмі блізка закранула гэтая трагедыя. Не толькі ў плане таго, што гэта нашыя калегі, але таму, што гэта нашыя завочныя сябры», — адзначыў Канавальчык.

Сярод тых, хто выйшаў на гэтую акцыю, быў і лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. «Я магу пражыць і ў Беларусі фактычна без любога медыя, інфармацыйнага рэсурсу. Але я думаю, што Беларусі цяжка пражыць без свабоды слова», — акцэнтаваў ён сітуацыю з тэрактам у Парыжы.

У Віцебску праваабаронца Павел Левінаў і некалькі віцебскіх журналістаў таксама фатаграфаваліся з плакатам «Je suis Charlie» на фоне вядомага графіці: трох жалезных клетак і птушак з газеты, якія вырываюцца на волю. Раней за фотаздымкі на гэтым фоне Левінава і іншых арыштавалі, абвінавацíўшы ў правядзенні несанкцыянаванага мерапрыемства.

## Няўдалы піяр

Прэс-сакратар КДБ Артур Стрэх на фоне тэракту ў Парыжы паведаміў тэлеканалу «Беларусь 1», што ў сінявокай затрымалі 20 мусульман-салафітаў, якія стварылі сваю суполку пад уплывам місіянераў адной з арабскіх экстрэмісцкіх арганізацый. Расійскае РИА «Новости» са спасылкай на «Беларусь 1» паведаміла пра восем іншаземцаў, якія былі высланы з краіны.

Праўда, чым больш журналісты капаліся ў гэтай гісторыі, тым больш было «непаняткаў». У БТ казалася пра восем замежнікаў, у інтэрв'ю таго ж Стрэха «Еўрарадыё» іх колькасць скарацілася да пяці. Затрыманне, як высветлілася, адбывалася ўвосень мінулага года. А калі пачалі «капаць» далей, аказалася, што і затрымання як такога не было.

Група мусульманаў па пятніцах малілася ў вёсцы Калядзічы Мінскага раёна. Іх папярэджвалі, каб яны зарэгістраваліся як рэлігійная арганізацыя, аднак гэтага яны не зрабілі. Да таго ж будынак, у якім ішлі малітвы, не быў аформлены, як мячэць. Паступіла нейкая скарга, і туды наведаліся людзі з КДБ і МУС.

Сам Стрэх прызнаў, што гэтыя людзі «пакуль не здзейснілі нічога супрацьпраўнага», акрамя малітвы без рэгістрацыі. Таму затрыманыя іншаземцы былі дэпартаваныя, а з беларусамі правялі прафілактычную гутарку і адпусцілі на ўсе чатыры бакі. Зараз гэтыя мусульмане, якіх на ўсю краіну абвесцілі экстрэмістамі, спакойна моляцца ў зарэгістраванай мячэці Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Смілавічах Мінскага раёна. «Ніхто дрэннымі справамі тут не займаецца. Памаліліся і з'ехалі», — каротка канстатаваў старшыня абшчыны мусульманаў у Смілавічах Сапар Канапацкі.

## Рэлігія альбо свабода слова?

У інтэрнэце з нагоды тэракта ў «Charlie Hebdo» разгарэлася пэўная дыскусія. Узгадалі не толькі «Навінкі», але і зачыненую газету «Згода», якая ў 2006 годзе размясціла артыкул пра нападкі на данскую газету «Jullands-Posten», якая змясціла карыкатуры на прарока Мухамеда (для ілюстрацыі артыкула «Згода» дала некалькі тых карыкатур). Маўляў, і «Згода», і «Charlie Hebdo» дазволілі сабе зняважыць пачуцці вернікаў, і тым самым яны самі вінаватыя ў тым, што адбылося. Праўда, у Беларусі «ўсяго толькі» выпускаючага рэдактара за кратамі тры месяцы пратрымалі ды газету ліквідавалі, а ў Парыжы — вось як. А таму тут пытанне ідзе пра знявагу мусульманаў, а не пра свабоду слова.

Але ці ідзе тут гаворка пра рэлігію ўвогуле?

Па-першае, «Charlie Hebdo» не засяроджвалася на мусульманах. На тэму хрысціянства і іншых рэлігіях у іх карыкатураў было не менш, чым на тэму ісламу. Таму пра нейкую «выбарнасць» тут гаворка не ідзе. Можа, мусульмане больш хваравіта ўспрымаюць карыкатуры, таму што ўвогуле выява прарока Мухамеда ў ісламе непрымальная?

Нават калі і так, то ёсць «па-другое». Нягледзячы на тое, што тэрарысты крычалі, што яны «адпомсцілі за прарока», напад на «Charlie Hebdo» быў здзейснены не пасля публікацыі карыкатураў на прарока. Тэракт ажыццявілі пасля таго, як часопіс надрукаваў карыкатуру на лідара «Ісламскай дзяржавы» Абу Бакр аль-Багдадзі.

Між іншым, у сеціве з'явілася пасмяротнае відэа аднаго з тэрарыстаў, Амедзі Кулібалі, які прызнаецца, што з'яўляецца ўдзельнікам групоўкі «Ісламская дзяржава».

Відавочна, спрэчкі пра тое, ці абражаюць рэлігійныя пачуцці мусульманаў карыкатуры на прарока Мухамеда, весці можна. Але калі за такую «абразу» выдаецца карыкатура на палітычнага дзеяча — гэта ўжо занадта. Так мы ўвогуле застанемся без карыкатураў і палітычнай сатыры.

Варта зазначыць, што не ўсе мусульмане пакрыўдзіліся на «Charlie Hebdo», і нават не ўсе тэрарысты. Як паведамляе руска-ізраільскі партал newsru.co.il, «лідар ліванскай шыіцкай тэрарыстычнай арганізацыі «Хізбалах» Хасан Насралла заявіў, што экстрэмісты, у тым ліку, «Ісламская дзяржава», прычынілі больш шкоды ісламу, чым карыкатуры на прарока Мухамеда. Насралла заявіў, што тэрарысты сваімі злачынствамі, напрыклад, адсячэннем галоваў нявінным людзям з нагоды дня нараджэння прарока Мухамеда, абражаюць іслам нашмат мацней, чым французскія карыкатурысты.

## Усе мы Шарлі

Тэракт у «Charlie Hebdo» яшчэ раз прымусіў задумацца, у якой краіне мы жывем і як розныя сістэмы рэагуюць на выклікі. Напрыклад, як рэагуе грамадства дэмакратычнае?

На акцыю ў падтрымку «Charlie Hebdo» ў Парыжы выйшла каля 2 мільёнаў чалавек. Новы нумар часопіса, на вокладцы якой быў змешчаны прарок Мухамед, які плача і трымае таблічку «Я — «Charlie Hebdo», выйшаў накладам ў тры мільёны экземпляраў замест 60 000. І гэты наклад французы раскупілі за лічаныя гадзіны, давялося друкаваць яшчэ 2 мільёны.

А як рэагуе грамадства аўтарытарнае ці таталітарнае? У Расіі Камчацкае ўпраўленне Роскамнагляду разаслала ў мясцовую прэсу ліст, у якім папярэдзіла аб недапушчальнасці «размяшчэння ў СМІ любых карыкатур на рэлігійных дзеячаў». Акрамя таго, ведамства не рэкамендуе інтэрнэт-СМІ змяшчаць гіперспасылкі «на матэрыялы іншых СМІ (у тым ліку замежных), аўтарскія матэрыялы, якія апраўдаюць дадзеныя падзеі, карыкатуры рэлігійных дзеячаў». Невыкананне гэтай рэкамендацыі будзе разглядацца як парушэнне закона «Аб супрацьдзеянні экстрэмісцкай дзейнасці».

У Беларусі акрамя пужалкі ад КДБ пра «мусульманаў-тэрарыстаў», не было нічога. Пужалка разлічаная, канешне, на грамадства ўвогуле: маўляў, «усе мы пад каўпаком». Але аніякіх захадаў па абмежаванні свабоды слова не было.

Не было не таму, што беларускія ўлады вельмі ліберальныя, а таму, што нашая «свабода слова» ўжо ўціснутая ў такія межы, што перадрук, напрыклад, карыкатураў амаль немагчымы — усе памятаюць, чым гэта скончылася для вышэйзгаданага Здвіжкова. Не трэба і дадатковых «указівак», кшталту расійскіх — дзякуючы новаму закону пра СМІ, любы падобны перадрук ужо ёсць падставай для папярэджання выданню.




**На знак ушанавання памяці ахвяраў тэракту праваабаронцы і журналісты Віцебска сфатаграфаваліся з плакатамі, на якіх было напісана «Je suis Charlie» («Я — Шарлі»). І ўсклалі кветкі да сцяны з вядомым ў горадзе графіці — малюнка з клеткамі і птушкамі.**



**«Выпуск тых, хто выжыў» — наклад «Charlie Hebdo» дасягнуў 5 мільёнаў асобнікаў. Вялізныя чэргі жадаючых набыць свежы выпуск сатырычнага часопіса «Charlie Hebdo» выстраіліся каля шапікаў ў Францыі**




# Чорная валютная серада

Генадзь КЕСНЕР

**Серада, 14 лютага. Новыя звесткі з Беларускай валютна-фондавай біржы. І недаўменне. Зноў падзенне беларускага рубля. Пераадоленне псіхалагічнага паказчыка ў 15 тысяч «зайцоў» за «зялёны». «Заяц» пагнаў. Як на яго будуць паляваць эканамічныя ўлады? Адказ на гэта пытанне «Новаму Часу» даў былы кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі, доктар эканамічных навук Станіслаў Багданкевіч.**



«Падзенне рубля звязана з тым, што ў Беларусі публічна не абвешчана праграма макраэканамічнай стабілізацыі, у першую чаргу, на спажывецкім рынку. Не прымаюцца і належныя захады для яе рэалізацыі. Я маю на ўвазе, што ніхто не сказаў, як Нацбанк збіраецца вырашаць праблемы стабільнасці курса», — перакананы Багданкевіч.

Цяпер галоўнае — аднавіць давер да нацыянальнай валюты, лічыць ён. «Я як спажывец павінен разумець, што, калі сёння я набуду касцюм за мільён рублёў, то і праз год я набуду яго за мільён. І мне не патрэбна канвертаваць рубель у долар або еўра, каб захаваць гэты кошт касцюма», — адзначае Багданкевіч.

Першаснымі для стабільнасці з'яўляюцца спажывецкія кошты, узровень інфляцыі, кажа Багданкевіч. «Вось каб абвясціла Беларусь, што яна ставіць за мэту скараціць інфляцыю да 3–5%, паказала б, як інфляцыя будзе скарочана, то каму былі б патрэбныя гэтыя долары? Калі беларускія рублі будуць выконваць функцыю меры вартасці, зберажэнняў і назапашванняў на працяглую перспектыву, тады адразу ўсталюецца стабільнасць валютнага курса», — перакананы эканаміст. Трэба займацца інфляцыяй, кажа суразмоўца, які надоечы наведаў аптэку і зараз канстатуе, што там не па днях, але нават па гадзінах растуць кошты.

Станіслаў Багданкевіч не бярэцца прагназаваць, якой будзе дынаміка суадносінаў паміж доларам і айчынным рублём. «Фінансавыя ўлады мусяць прадпрымаць захады ў двух напрамках. Першае — гэта абмежаванне грашовай масы. За мінулы год валавы прадукт (ВУП) вырас менш як на 2%, а рублёвая грашовая маса — на 20%. То бок, грошай надрукавалі на парадак больш, чым стварылі прадукту. І пры гэтым разлічваюць, што ўсё будзе ў парадку?» — задаецца пытаннем былы галоўны банкір краіны.

Па словах Багданкевіча, Нацбанк павінен абвясціць: сёння грашовая маса складае 95 трыльёнаў рублёў, і гэтая грашовая маса не будзе павялічвацца хоць бы цягам наступных шасці месяцаў. «Дзеля гэтага трэба абвясціць пра скарачэнне бюджэту, дзяржаўных выдаткаў, трэба заявіць, што і крэдытаванне эканомікі будзе абмежавана і нават скарочана. Дарэчы, у нас ужо што-нешта пра гэта сказана: не будуць крэдытавацца тыя прадпрыемствы, якія дапускаюць страты, дапускаюць дэбіторый, у якіх прадукцыя не прададзеная і ляжыць у сховішчах. Такім чынам, тая грашовая маса ў 95 трыльёнаў будзе захаваная і не будзе расці хаця б паўгода», — кажа эксперт.

Адначасова, мяркуе Багданкевіч, у Беларусі будзе назірацца ажыўленне эканомікі. «Зараз жа ў нас застой, ВУП не расце. Трэба абвясціць пра скарачэнне падатку на дабаўленую вартасць, сацыяльнага падатку, каб пакінуць больш грошай рэальнаму сектару, каб яны маглі абнавіць тэхналогіі і павялічыць эфектыўнасць», — упэўнены банкір.

Апроч таго, трэба павялічыць залатавалютныя рэзервы, якія сёння складаюць крыху больш за 5 мільярдаў долараў у міжнародным вымярэнні. Трэба ж сама мала ў два разы больш. «Нарасціць ЗВР можна шляхам продажу часткі акцыяў эфектыўных нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў і «Беларуськалія», пакінуўшы сабе кантрольны пакет, пачаць іншую прыватызацыю. Але, галоўнае, абвясціць такі рэжым, каб наўпроставых замежных інвестыцыяў паступала парадку 6–8 мільярдаў долараў за год. У Беларусь паступалі б грошы, частка з іх захавалася б у залатавалютных рэзервах. Карацей, патрэбная дакладная праграма, але яе пакуль няма», — канстатуе Станіслаў Багданкевіч.

У той жа час ён перакананы, што ключавой задачай для ўраду з'яўляецца інфляцыя, а не валютныя курсы. «Мы занадта шмат кажам пра валютны курс. Была б у нас інфляцыя 3%, не было б ніякай дэвальвацыі. Сёння ўсе жадаюць перавесці рублі ў долары, бо не давяраюць рублям, людзі лічаць, што калі пакінуць іх на год, то рублі абясцэняцца ў два разы. Таму трэба аднаўляць давер да рубля. Ці вось абвясціў ў вольнае плаванне курсаў еўра і долара. Але чамусьці ў абменніках няма ні долараў, ні еўра. Дык трэба забяспечыць абменныя пункты валютай, каб народ супакоіўся, каб аднавіўся давер», — лічыць экс-кіраўнік Нацбанку.

Хаця, адзначае Станіслаў Багданкевіч, рэгулятар ужо пачынае нешта рабіць. «Нацбанк нібыта выдаў ліст-рэкамендацыю, каб абмежаваць крэдытаванне прадпрыемстваў, што маюць пратэрмінаваныя дэбіторыі, маюць гатовую прадукцыю, дапускаюць страты і гэтак далей. Гэта вось крокі ў правільным накірунку, але іх трэба рабіць публічна, каб супакоіць людзей, і тлумачыць, што гэта прывядзе да нечага станоўчага», — лічыць эксперт.

**«Я як спажывец павінен разумець, што, калі сёння я набуду касцюм за мільён рублёў, то і праз год я набуду яго за мільён. І мне не патрэбна канверсаваць рубель у долар або еўра, каб захаваць гэты кошт касцюма», — адзначае Багданкевіч**

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Татальная вайна на працоўным фронце



**На нарадзе па патанні працоўнай занятасці Аляксандр Лукашэнка зноў заняўся лайдакамі, маўляў, каб зямля гарэла ў іх пад нагамі.**

Але ў чым сутнасць усіх такіх прамоў, што крыецца за гучнымі словамі пра лайдакоў, якія перашкаджаюць сумленным працоўным нармальна жыць? А сутнасць простая: усе грамадзяне павінны працаваць, але зарабляць не вельмі шмат, і галоўнае, не патрабаваць болей, чым атрымліваюць. Бо сістэма кіруе (спрабавала кіраваць) адразу ўсім. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба — гэта наша зусім не забытае савецкае мінулае.




Прынамсі, савецкая дзяржава кантралявала пытанні занятасці, працы і яе аплаты. Улады патрабавалі ад кожнага рэгулярнай занятасці, і стымулявалі яе, сярод іншага, праз так званыя грамадскія фонды спажывання. Прыкладам, такія фонды мелі прадпрыемствы, у залежнасці ад колькасці працаўнікоў, атрымлівалі да 15–20% сродкаў, якія пералічваліся на развіццё яго ўласнага «сацкультбыту». Самым цікавым бюджэтным артыкулам сацкультбыту прадпрыемстваў было жыллёвае будаўніцтва. Работнік прадпрыемства займаў чаргу і праз нейкі (звычайна працяглы час) атрымліваў дзяржаўную кватэру. Важна было не так эфектыўна працаваць, колькі чакаць. Прыкладам, работнікі, занятыя на шкодных вытворчасцях, хоць і мелі лепшыя заробкі, але часта звальняліся. А вось прыбіральшчыцы трымаліся за сваё працоўнае месца, як прэзідэнты постсавецкіх рэспублік за свае пасады.

Чым больш пасядзіш, тым больш выседзіш.

Фактычна, поўная занятасць, то бок адсутнасці беспрацоўя, давала сістэме аргументы ў ідэалагічных спрэчках з «антысаветчыкамі», а галоўнае — забяспечвала татальны кантроль за грамадствам. Стымулявала каго пернікам, каго бізуном. Каму кватэру, каму тэрмін на хіміі. Выбірай.

Людзі да гэтага прызвычаіліся і набылі патрэбную лаяльнасць да ўлады. Нават палюбілі. Пернік для сябе, плётку для суседа.

Звычайная гісторыя для спецыялістаў па сацыяльнай псіхалогіі і карных дзяржслужбаў. Прыкладам, органы па працы ў выканкамах займаліся не столькі працаўладкаваннем часова не працуючых грамадзян, колькі высылкай лайдакоў далёка за горад, «за 101-ы кіламетр».

Калі камадна-адміністрацыйная сістэма збанкруцілася, то спачатку юрыдычна, а пасля і арганізацыйна, сфера занятасці і працы была, як кажуць, перазагружаная. Былі зробленыя спробы наладзіць рынак працы, на якім бы дзейнічалі адказныя працадаўцы і наёмныя работнікі пад арбітражам прафесіянальных саюзаў і пад гарантыі дзяржавы. Кожны з іх атрымаў правы пад сваю сацыяльную адказнасць, а дзяржава павінна была ўсё гэта забяспечыць. Не прымусам, за выключэннем асобных выпадкаў, а законнымі гарантыямі свабоднай працы.

Зараз, калі механізм кіравання амаль цалкам аднавіўся як каманднa-адміністратыўная сістэма, яму спатрэбіліся былыя тэхналогіі. Не дзіўна, што Лукашэнка загадвае сваім «спецыялістам» знайсці юрыдычнае тлумачэнне практычнай патрэбы. Не дзіва, што гэту справу распачалі Мінпрацы і МУС, галоўныя ў мінулым барацьбіты з «непрацоўнымі элементамі» ўвогуле і з лайдакамі ў прыватнасці. Не дзіўна, што менавіта яны сталі ініцыятарамі аднаўленне практыкі адміністратыўнага і крымінальнага пераследу лайдацтва.

Адзначым, што былая сістэма збанкрутавала, таму што не вытрымала не толькі канкурэнцыі ў глабальнай эканоміцы, але і страціла сувязь са звычайным здаровым сэнсам. На яе зараз вельмі падобная «беларуская мадэль». Бо відавочна, калі да 4,5 мільёнаў занятых у эканоміцы дадаць 400 тысяч «афіцыйных лайдакоў», то эфектыўнасць сістэмы толькі пагоршыцца. Татальная вайна спачатку дае сістэме нейкія ўяўныя перавагі, а пасля нішчыць яе апошнія рэсурсы.

Гісторыя смяецца з лідараў, якія спрабуюць яе падмануць.

TV

## 25 СТУДЗЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Меладрама «Гэтая жанчына да мяне» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка передач.
**14.15** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**14.45** Нашы.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.50** Давярай і правярай.
**17.25** Меладрама «Андрэйка» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Меладрама «Дзякуй за каханне» (Расія).
**00.10** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Уладзімір Высоцкі і Марына Уладзі. Апошні пацалунак».
**11.45** АНТ прадстаўляе: Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**12.10** «Ералаш».
**12.25** «На край свету». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Высоцкі».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Подых планеты».
**21.35** «Да дня нараджэння Уладзіміра Высоцкага».
**23.40** «Казка пра тое, як цар Пётр арапа жаніў». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.35** «Студэнты-2». Серыял.
**07.25** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**07.50** Фільм» Каханне па правілах і без «(ЗША, 2003 г.).
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Спяваючыя гарады».
**10.45** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.00** «Спяваючыя гарады».
**14.05** «NEXT-2». Серыял.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Спяваючыя гарады».
**16.55** «Дарагая передача».
**17.10** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.40** Фільм «Сем нявест яфрэйтара Збруева» (СССР, 1970 г.).
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Сэрцаед» (Францыя - Манака, 2010 г.).
**22.35** «Пякельная кухня-2».
**23.50** Фільм «Паляўнічы» (Аўстралія, 2011 г.).
**01.30** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**02.35** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Камедыя «Вялікі тата» (ЗША).
**08.25** Вышэй за дах.
**09.00** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**09.50** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.25** «Зразумець і абясшкодзіць».
**11.00** Тэлебарометр.
**11.05** Анімацыйны фільм «Ледніковы перыяд» (ЗША).
**12.40** Біятлон. Этап кубка свету. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**14.10** Іранічны дэтэктыў «Сустрэчная плынь» (Расія).
**16.00** Я хачу гэта ўбачыць.
**16.35** Кіпень.
**16.55** Біятлон. Этап кубка свету. Эстафета. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**18.25** «Comedy Баттл». Без межаў «. Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**19.30** Суперлато.
**20.20** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.20** Фантастычны баявік «Тэрмінатар-3: паўстанне машын» (ЗША - Германія).
**23.10** Прыгодніцкі трылер «Вертыкальны мяжа» (ЗША).
**01.10** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Падзенне Рымскай імперыі». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (ЗША, 1964 г.).
**10.55** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Андрэй Плясанаў.
**11.35** «Размаўляем па-беларуску».
**11.40** «Наперад у мінулае».
**12.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.00** «Культурныя коды». Дак. фільм, прысвечаны ўзнікненню славянскага пісьменства.
**13.25** «Уладзімір Высоцкі. Беларускі след». Дакументальны фільм.
**13.50** «Размаўляем па-беларуску».
**14.00** «Гармонік». Музычная камедыя (СССР, 1934 г.).
**14.55** «Салавей». Канцэрт Людмілы Лазарчык і Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя І.Жыновіча.
**16.30** «Інтэрвенцыя». Эксцэнтрычная камедыя (СССР, 1968 г.).
**18.10** «Размаўляем па-беларуску».
**18.15** «Культпрасвет».
**18.50** «Сталёвыя магноліі». Меладрама (ЗША).
**20.45** Калыханка.
**21.20** «Аляксей Кортнеў, група «Несчастный случай».
**23.00** «Культпрасвет».
**23.35** В.Вярбоўская. «Заўсёды Ваш. Тарыч». Спектакль.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.05** Баскетбол. НБА. «Вашынгтон» - «Портлэнд». Прамая трансляцыя.
**08.15** PRO спорт. Навіны.
**08.45** Сноуборд. Чэмпіянат свету.
**10.10** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Гонка пераследу. Мужчыны.
**11.10** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Гонка пераследу. Жанчыны.
**12.05** Баскетбол. НБА. «Вашынгтон» - «Портлэнд».
**13.55** Фрыстайл. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**16.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**17.25** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**18.00** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Мужчыны.
**19.35** Баскетбол. НБА. «Вашынгтон» - «Портлэнд».
**21.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Жанчыны.
**23.00** Фактар сілы.
**23.35** Баскетбол. НБА. «Аклахома Сіці» - «Кліўленд». Прамая трансляцыя.
**01.45** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабраміp», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**08.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.35** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Валянцін Губараў.
**09.05** «Моц матылькоў», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**09.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.40** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Чалы і Сяргей Балыкін.
**10.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Якуб Ясінскі.
**10.50** Казкі для дзетак: «Вынаходлівы Дабраміp», «Аблавушак», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**11.25** «Чароўнае дрэва», серыял.
**12.00** Мова нанова: Горад.
**12.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**12.40** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**13.30** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: ч. 1.
**14.10** Невядомая Беларусь: «Амерыканка. All included», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**15.05** «Адважны», драма, 1997 г., ЗША.
**17.05** «Ранча», серыял.
**17.50** Форум (ток-шоу): Пакаленне «сексі».
**18.35** «Час гонару», серыял.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Карусь Каганец.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Куба: фіеста, чорны рынак і рэжым», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**21.25** Кінаклуб: «Скрадзеныя вочы», гіст. драма, 2005 г., Балгарыя–Турцыя.
**23.20** «Дзеці ГУЛагу», дак. фільм, 2011 г., Францыя.
**00.15** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Украінская рэха парыжскай бойні

Алег НОВІКАЎ

**Экспертная супольнасць разважае, як парыжская бойня паўплывае на стан і перспектывы канфлікту ва Украіне.**







Відавочна, што трагедыя ў рэдакцыі «Charlie Hebdo» мае глабальнае вымярэнне і, адпаведна, паўплывае на рэгіянальныя працэсы. Гэта тычыцца і Украіны, якая ператварылася ў арэну геапалітычнай барацьбы. Украінскае рэха парыжскіх падзей — адна з самых актуальных тэмаў у расійскай і ўкраінскай грамадска-палітычнай дыскусіі.

У Данецку, напрыклад, лічаць, што масакра на беразе Сены будзе выкарыстаная Кіевам для легітымізацыі чарговай спробы ўзброеным шляхам ліквідаваць сепаратысцкі арэал на Данбасе. Уладзімір Блюмінаў, адзін з луганскіх палітолагаў, піша: «Тое, што адбылося ў Францыі, — самы сапраўдны падарунак для кіеўскага рэжыму. Ён (рэжым) шмат месяцаў запар забівае ў галовы сваіх адэптаў, што ідзе Свяшчэнная вайна з рускімі акупантамі і іх памагатымі — данбаскімі тэрарыстамі і баевікамі. (...) І хваля антытэрарыстычнай рыторыкі, якая паднялася ў Еўропе, заклікаcontaining стаць індульгенцыяй для злачынстваў будучых, адфарматаваных загадзя пад рэакцыю грамадства на такія факты».

Сапраўды, практычна ўсе лідары Майдану правялі асацыяцыі паміж братамі Куашы і баевікамі з Данбасу. «Украіна, як ніхто, разумее боль Францыі», — сказаў Парашэнка. Аднак, калі меркаваць па некаторых форумах, шмат хто ва Украіне не зразумеў, чаму Парашэнка і саюзнікі ў ЕС надаюць такую вялікую павагу карыкатурыстам, калі пад носам гінуць столькі людзей. На інтэрнэт-форумах пад навіной аб візіце Парашэнкі ў Парыж хапае каментараў а-ля «А калі нашым хлопцам і дзяўчатам, якія загінулі ад тэрарыстаў, ён выказаў спачуванні?» або «Чаму гэтыя ўсе прэзідэнты не едуць ва Украіну ўшанаваць памяць загінулых украінскіх герояў?»

Іншая фракцыя ўкраінскай палітычнай эліты мяркуе, што гісторыя з «Charlie Hebdo» хутчэй на руку Крамлю. Пра гэта кажа, напрыклад, упаўнаважаны прэзідэнта Украіны па справах крымскататарскага народа Мустафа Джамілеў. У інтэрв'ю аднаму з мясцовых каналаў ён заявіў: «Тэракты ісламістаў у Францыі могуць адцягнуць увагу ад расійскага тэрарызму ва Украіне. Калі такія трагедыі адбываюцца, грамадства пачынае ўзважваць — каму гэта можа быць выгадна. І тут можна адназначна зрабіць выснову, што гэтыя тэракты больш за ўсё выгадныя Расіі, каб адцягнуць увагу ад таго ўзроўню тэрарызму, які Расія робіць у дачыненні да Украіны».

З гэтым згодна і большасць экспертаў. «Расіі трэба шукаць новыя пункты сутыкнення з Захадам. Новыя агульныя тэмы, пра якія Захад можа гаварыць з Расіяй — барацьба з тэрарызмам. Гэта легітымнае поле, у якім Захад і Расія могуць гаварыць», — падкрэслівае навуковы супрацоўнік Інстытута ўсходазнаўства НАН Украіны Сяргей Данілаў.

Польскае выданне «Fakty» ў сваім каментары ўвогуле падазрае, што Расія магла прыкласці руку да арганізацыі атакі на рэдакцыю «Charlie Hebdo». «Калі даслоўна трактаваць рымскую максіму «Is fecit, cui prodest», якая азначае, што злачынцам з'яўляецца той, каму яны [тэракты] прынеслі карысць, то вы павінны неадкладна паказаць на Уладзіміра Пуціна. Толькі гэта абвінавачванне нічым падмацаваць нельга. Вядома, што Савецкі Саюз меў шматгадовую традыцыю і велізарную, магутную сістэму падтрымкі тэрарызму (RAF, «Чырвоныя брыгады» і іншы зброд). Напаўголасу кажуць, што ў апошнія гады Крэмль зрабіў шмат для падтрымкі карыснай для сябе вайны ў Сірыі. Выбар у якасці

**На інтэрнэт-форумах пад навіной аб візіце Парашэнкі ў Парыж хапае каментараў а-ля «А калі нашым хлопцам і дзяўчатам, якія загінулі ад тэрарыстаў, ён выказаў спачуванні?»**

галоўных ворагаў свайго рэжыму гуртоў дастаткова непрыемных тыпаў вельмі нагадвае метады працы Пуціна. Але здагадкі — усяго толькі здагадкі. А факт у тым, што злачыннасць і далейшае развіццё падзей (у тым ліку дзіўныя гранаты, кінутыя пад мячэці Парыжа) з'яўляюцца для маскоўскага рэжыму сапраўдным падарункам нябёсаў», — пішуць «Fakty».

Ніхто не сумняваецца, што расійская журналістыка прапануе палярны погляд на актуаліі. Адпаведна расійскім журналістам, тэракт быў ледзь не арганізаваны ЗША. Прэзідэнт расійскай кансалтынгавай групы «Неакон» Міхаіл Хазін на сваім сайце канстатуе: «Еўрапейскія эліты мацнеюць, што ставіць пад пагрозу зону свабоднага гандлю, а таксама знаходжанне праамерыканскіх элітаў ва ўладзе еўрапейскіх дзяржаў. Орбан у Венгрыі, Зэман у Чэхіі, Марын Ле Пэн у Францыі... Вельмі негатыўныя працэсы для ЗША. І значыць, сітуацыю трэба падрываць, «дэмакратыю» зачыняць і арганізоўваць жорсткую дыктатуру, зразумела, праамерыканскую, якая будзе тупа выконваць інструкцыі з Вашынгтона без аглядкі на розныя «дэмакратычныя» працэдуры».

Брытанскі партал «Counter Punch» таксама лічыць, што ЗША будуць галоўным бенефіцыярам парыжскай драмы, падпарадкаваўшы сабе знешнюю палітыку ЕС у абмен на гарантыі бяспекі: «Каму выгадны забойствы ў «Charlie Hebdo»? Толькі адміністрацыі Абамы. Адміністрацыя Абамы ўжо мабілізуе Савет Бяспекі ААН. ФБР «дапамагае» французам у расследаванні. Абама прапануе «абарону» Заходняй Еўропе».

Праўда, пакуль рабіць доўгатэрміновыя высновы, напэўна, не варта. Кіраўнікі спецслужбаў лічаць, што цяперашні раунд змагання з тэрарызмам яшчэ не скончыўся. Таму кожны час магчымы карэктывы ў павестку дня аж да пастаноўкі пытання арганізацыі супольнай аперацыі Захаду супраць Ісламскай дзяржавы, якая, мяркуючы па ўсім, рыхтавала тэракты.

Між тым, Расія ўжо пачала спробу перафарматаваць дыялог з Еўропай. Шматлікія журналісты адзначылі, што падчас «Маршу адзінства» ў Парыжы кіраўнік МЗС Расіі Сяргей Лаўроў паспеў запэўніць Франсуа Аланда ў тым, што Крэмль гатовы разам з Францыяй змагацца з тэрарызмам. Пры гэтым, у самой Расіі спецслужбы ўмудрыліся затрымаць тых, хто выйшаў на пікет у падтрымку французаў.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларускі прэзідэнт, звычайна шмат у чым залежны ад Расеі і такі падатлівы ў адносінах з Крамлём, асуджае ўкраінскую палітыку Пуціна. Далучэнне Крыма ён назваў «незаконным». Паводле яго слоў, нельга пагадзіцца з тым, каб адна дзяржава забірала ў іншай частку яе тэрыторыі. Ён таксама не далучыўся да эмбарга Пуціна супраць краін ЕС. Лукашэнка выступае супраць абсалютнага расійскага панавання ў новым саюзе, як і іншыя яго члены. Перад тварам падобных супярэчнасцяў досыць беспадстаўным выглядаюць асцярогі адносна таго, што Еўразійскі эканамічны саюз можа стаць першай прыступкай на шляху да адраджэння разбуранай Расійскай імперыі.

**«Die Zeit» (Германія)**

Беларусь не планавала навагодніх вакацый, аналагічных расійскім, аднак большасць прадпрыемстваў вымушана была іх зладзіць, бо рашэнне аб увядзенні падатку, які трэба было плаціць з прыбытку, усё роўна не дазваляла працаваць. Аб стабільнасці ў краіне казаць рана. У сувязі з дэвальвацыяй бізнес-планы кампаній падлягаюць перагляду. Кіраўнікі прадпрыемстваў скардзяцца, што давялося ануляваць вынікі тэндэраў на закупку імпартнай сыравіны і матэрыялаў, якія прайшлі да новага года, а праводзіць новыя пакуль таксама немагчыма — імпарцёры не гатовыя рабіць прапановы. Па-першае, да 15 студзеня дзейнічае забарона на павышэнне коштаў, які ўсталяваў стары ўрад. Па-другое, эксперты мяркуюць, што 30 працэнамі дэвальвацыя можа не скончыцца.

**«Независимая газета» (Расія)**

Нягледзячы на ваенныя дзеянні на Данбасе і эканамічны крызіс, таваразварот паміж Украінай і Беларуссю не ўпаў, а, наадварот, працягвае расці. Пры гэтым у Украіны наогул няма ні цэнта запазычанасці за пастаўкі беларускіх тавараў, што з'яўляецца ўнікальнай сітуацыяй. Цяперашнюю актывізацыю супрацоўніцтва Кіева і Мінска заўчасна лічыць сігналам пра крах Мытнага саюза. Аднак эксперт упэўнены, што прэзідэнт Беларусі, які нядаўна наведаў Кіеў, па цэлым шэрагу прычын (у прыватнасці, каб пазбегнуць санкцый Захаду) асабіста зацікаўлены ў паглыбленні і пашырэнні двухбаковых гандлёва-эканамічных адносін, пра што ён сам неаднаразова заяўляў.

**«Новыя Известия» (Расія)**

З моманту распаду СССР для многіх стратэгаў і дыпламатаў на Захадзе Мінск быў забытай, а часам і наогул «невядомай» правінцыйнай сталіцай незразумелай для іх дзяржавы. Гэты год абяцае вялікія перамены: Беларусь выходзіць на авансцэну міжнароднай палітыкі. І няма ніякай упэўненасці ў тым, што для краіны гэта — добрыя навіны. Супадзенне падзей робіць Беларусь у 2015 годзе не толькі геаграфічным цэнтрам «Вялікай Еўропы», але таксама і эпіцэнтрам палітычных працэсаў. Нечакана для Аляксандра Лукашэнкі, менавіта ад яго рашэнняў у бліжэйшыя 12 месяцаў стане залежаць будучыня рэгіянальнай, а ў некаторых аспектах — кантынентальнай і глабальнай расстаноўкі сіл у свеце.

**«Цэнтр міжнароднай журналістыкі і даследаванняў» (Польшча — Расія)**

Прынятая (вайсковая) дактрына падрабязна разбірае адносіны Расіі са сваімі саюзнікамі, партнёрамі і іншымі краінамі. Беларусь адзначаецца як найбольш блізкі саюзнік Расіі, узброеныя сілы якога практычна інтэграваныя з расійскімі. Сітуацыя, што склалася, тлумачыць памяркоўнае стаўленне Крамля да адкрытага шантажу з боку беларускага прэзідэнта.

**«The National Interest» (ЗША)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Зюганаў і Жырыноўскі стануць міністрамі?

Расійская кампартыя Генадзя Зюганава лічыць, што канфлікт Расіі з Захадам і эканамічны крызіс патрабуюць новай формулы выканаўчай улады ў цэнтры і на месцах. Непасрэдна КПРФ прапануе перайсці да фармавання ў Расіі так званага кааліцыйнага ўрада, які складаецца з прадстаўнікоў розных парламенцкіх партый. Пасада прэм'ер-міністра, яго намеснікаў, а таксама міністэрскія партфелі камуністы прапануюць размяркоўваць зыходзячы з адсотка, які партыі набралі на выбарах у Дзяржджуму. Акрамя таго, парламентарыі прапануюць ствараць кааліцыйныя ўрады і ў суб'ектах Расійскай Федэрацыі. Палітолагі не думаюць, што Пуцін зараз гатовы падзяліцца ўладай з КПРФ (у выпадку рэалізацыі прапановы Зюганаў і Жырыноўскі, лідар ЛДПР, маюць атрымаць як мінімум пасаду віцэ-прэм'ераў). З-за патрыятычнай істэрыкі рэйтынг Пуціна застаецца дастаткова высокім, і дзяліцца ім ён не збіраецца.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Ці ўвядзе Пуцін войскі ў Кырзбекістан?

Рэдактар уплывовай брытанскай газеты «Financial Times» Ніл Баклі выказаў занепакоенасць тым, што ў Крамлі могуць хуткім часам задумацца пра абарону рускамоўнага насельніцтва Кырзбекістана. Праўда, гэтую навіну пра чарговыя выбрыкі расійскага імперыялізму ў свеце ўспрынялі са смехам, бо ніякага Кырзбекістану не існуе. Гэта віртуальная краіна, пра існаванне якой памылкова паведаміла адно амерыканскае выданне. Пасля выданне выбачылася за пракол, аднак было позна. Зараз інтэрнэт-прастору ахапіла мода мадэліраваць жыццё ў квітнеючым Кырзбекістане. Кырзбекістану ўжо прыдумалі сцяг, сталіцу і нават устанавілі, што галоўным артыкулам экспарту з'яўляюцца вусы. Тым часам пакуль адны смяюцца, другія робяць на гэтым грошы. Некаторыя інтэрнэт-крамы ўжо пачалі масавы выраб і продаж сувенірных футболак з вярблюдам з Кырзбекістана.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Хапун у Краіне Баскаў



Нацыянальная гвардыя Іспаніі правяла самыя масавыя арышты баскскіх левых нацыяналістаў за апошнія 5 гадоў. За кратамі аказалася 16 асобаў. Практычна ўсе яны – адвакаты і юрысты, што працавалі па справах сяброў радыкальнай арганізацыі ЕТА, якія знаходзяцца ў іспанскіх турмах. Сярод арыштаваных таксама адзін з кіраўнікоў партыі «Sortu», што лічыцца палітычнай вітрынай ЕТА. На думку нацыяналістаў, паліцыя хоча неяк прадэманстраваць сваю значнасць на фоне трагедыі ў рэдакцыі «Charlie Hebdo». Між тым, на думку палітолагаў, арышты могуць адцягнуць тэрмін роспуску структур ЕТА, пра што даўно гавораць у мясцовых палітычных колах. У якасці пратэсту супраць рэпрэсій з боку Мадрыда ў Краіне Баскаў абвясцілі кампанію «Je suis basque».

**Паводле іспанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Назарбаеў забараніў кампартыю

Як толькі закончыліся навагоднія святы, казахская грамадскасць даведалася, што яшчэ 25 снежня спецыялізаваны эканамічны міжраённы суд горада Алматы прыняў рашэнне пра прыпыненне дзейнасці Камуністычнай партыі Казахстана (КПК) на тры месяца, з магчымай яе поўнай ліквідацыяй. Гэта ўжо трэцяе па ліку прыпыненне дзейнасці КПК. Гэтым разам казахскія ўлады паспрабавалі давесці, што зачыніць КПК патрабуюць нібы самі шараговыя камуністы, якія незадаволеныя тым, што партыя падтрымлівае апазіцыю. Пасля шматлікіх такіх патрабаванняў Міністэрства юстыцыі Казахстана ініцыявала праверку дзейнасці КПК, па выніках якой адбыўся суд, на які ніводнага камуніста не запрасілі. У выніку КПК даведалася пра вердыкт настолькі позна, што скардзіцца па закону ўжо не мае права. Наўрад ці актыў КПК за тры месяцы зможа сабраць некалькі дзясяткаў тысяч заяў, як патрабаваў суд, і выратаваць партыю ад забароны. Гэта значыць, што ў сакавіку ў Казахстане не застанецца ніводнай зарэгістраванай апазіцыйнай партыі.

**Паводле казахскай прэсы**

# Францыя — гэта «Charlie Hebdo»

**Пра трагічныя падзеі ў Францыі, якая на мінулым тыдні з-за вылазак тэрарыстаў апынулася ў цэнтры сусветнай увагі, журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з французскім журналістам Аляксандрам Чукаевым.**




***— У Беларусі і, думаю, па ўсім свеце ўсе ўражаныя маштабамі парыжскага Маршу адзінства супраць тэрарызму. Наколькі тэлемалюнак адпавядае рэчаіснасці?***

— Сапраўды, 11 студзеня быў пабіты рэкорд па колькасці дэманстрантаў у гісторыі Францыі. На вуліцы выйшла каля 4 мільёнаў чалавек: 2 мільёны ў Парыжы плюс такая ж колькасць у правінцыі. Але трэба канстатаваць іншую статыстыку — з 7 па 12 студзеня таксама быў пабіты іншы рэкорд — больш за 54 выпадкі нападаў на мусульман у Францыі — ад абстрэлу мячэцяў да лістоў пагроз. Гэта таксама ўплывае на агульны тонус грамадства. У выніку паліцэйскія зараз ходзяць па гарадах з аўтаматамі і сабакамі.

***— А як самі мусульмане Францыі рэагуюць на тое, што адбылося?***

— Гэта залежыць ад сацыяльнага статусу. Мусульманская камуна ў большасці асуджае тэракт, паколькі гэта нічога не дае, акрамя кепскага іміджу ісламу. Тым больш тэрарысты забілі некалькі мусульман, якія выпадкова аказаліся на месцы трагедыі. З іншага боку, ёсць школы ў бедных прыгарадах, дзе арабскія дзеці (прыкладна ад 10 гадоў) адмовіліся ўдзельнічаць у хвіліне маўчання ў памяць пра забітых журналістаў. Яны лічаць, што смяротнае пакаранне для тых журналістаў было заслужанае за здзекі з рэлігіі іх бацькоў.

***— Зараз у Францыі набірае папулярнасць праект «Je ne suis pas Charlie». Грамадская ініцыятыва створаная ў адказ на кампанію «Je suis Charlie» і накіраваная супраць істэрыкі вакол газеты, якая, на думку арганізатараў ініцыятывы, сама сваім блюзнерствам і ваяўнічым атэізмам справакавала напад. Наколькі папулярны гэты праект?***

— Мяркую, што «Je ne suis pas Charlie» — гэта рэшткі руху супраць шлюбаў гомасексуалістаў, які сапраўды яшчэ год таму выводзіў на вуліцы сотні тысяч грамадзян. Пасля таго, як законапраект пра шлюбы ўсё ж быў прыняты, кансерватары і гамафобы аказаліся ў крызісе. Цяпер яны намагаюцца праз тое, што «Charlie Hebdo» быў выразна антыклерыкальным праектам, рэанімаваць свой рух. Не думаю, што гэта атрымаецца. Каталікі паслядоўна асуджаюць любыя тэракты. Цікава, што на прапаганду кансерватараў пазітыўна рэагуе шмат тых левых, якія бачаць галоўнай прычынай усіх бедаў Злучаныя Штаты. Яны прыгадваюць, што «Charlie Hebdo» ў свой час падтрымаў натаўскія бамбёжкі Югаславіі, паўстанне супраць Кадафі і часткова ўкраінскі Майдан.

***— Палітыкі вельмі часта робяць піяр на тэме грамадскай пагрозы. Ці ўзняўся рэйтынг прэзідэнта-сацыяліста Франсуа Аланада пасля таго, як ён рашуча асудзіў атакі тэрарыстаў?***

— Пакуль наконт бонусаў для ўлады цяжка казаць. Хаця, сапраўды, мікраспробы ўзняць рэйтынг Франсуа Аланда маюць месца. Але ў цэлым амаль усе звыкліся з думкай, што ён — палітычны труп. Тым больш, што тэракты б'юць рыкашэтам па Мануэлю Вальсу — міністру ўнутраных спраў, які лічыўся крызіс-менеджарам для адміністрацыі сацыялістаў. Паліцыя пад яго кіраўніцтвам проста праспала тэракты. За братамі — арганізатарамі тэрактаў, перасталі сачыць 5 месяцаў таму. Хаця на той момант былі дадзеныя, што яны звязаныя з ісламістамі з Сірыі і Йемену. Падчас нападу на рэдакцыю «Charlie Hebdo» супрацоўнікі ведамства Вальса зарэкамендавалі сябе як поўныя нулі, дазволіўшы злачынцам збегчы.

Абставіны, пры якіх бралі тэрарыстаў, яшчэ больш прараканалі грамадства ў непрафесіяналізме МУС. Ісламістаў па сутнасці бралі натоўпам, а не ўменнем. У дадатак пра лёс аднаго з забойцаў дасюль нічога не вядома, а сяброўка алжырца, які захапіў у заложнікі наведвальнікаў яўрэйскай крамы, увогуле здолела збегчы з краіны.

***— Ці змянілі стаўленне да Расіі апошнія падзеі ў Францыі? Кажуць, што прыярытэтам французскай знешняй палітыкі, якая шмат у чым вызначае курс ЕС, будзе вайна з ісламскім тэрарызмам, а не сітуацыя ва Украіне?***

— Падтрымліваць Пуціна ў Францыі адкрыта ніхто не будзе. Гэта знак кепскага густу. У мясцовай папулярнай сатырычнай праграме «Лялькі» з Пуціна ўвесь час смяюцца як з дыктатара, які перажывае больш за свабоду слова ў Францыі, чым у Расіі. Аднак пра Украіну цяпер таксама няшмат інфармацыі, паколькі адразу ўсплывае тэма ваенных караблёў, што Расія замовіла ў Парыжы, а той адмовіўся іх аддаваць. Так паводзіць сябе ў бізнесе сярод простых французаў не прынята. Тэму Украіны намагаюцца не афішаваць. Ніводнае мясцовае СМІ фактычна не інфармавала пра тое, што ў нядзелю ў Парыжы на Маршы адзінства быў Пётр Парашэнка.

***— Які твой сцэнар далейшага развіцця падзей?***

— Думаю, паступова ўсё супакоіцца. Магу сцвярджаць гэта, паколькі жыву ў рабочым прыгарадзе Парыжу, дзе таксама шмат арабаў. Мясцовы люд вельмі пасіўна паставіўся да нядзельнай дэманстрацыі, на якую ў большасці выйшла багемная буржуазія, сярэдні клас і хіпстары. Практычна ніякіх працоўных, фермераў або прадстаўнікоў грамадаў чарнаскурых або арабаў там не было. І той жа «Charlie Hebdo» ў нас не чытаюць. Тутэйшым не зразумела, хто можа купляць такое. Паглядзець можна, але заплаціць за гэта — дакладна не. Больш рабочых думаюць, што аўтары «Charlie Hebdo» бліжэй да прыдуркаў. Аднак тыя карыкатурысты нікога не забівалі, а браты-тэрарысты забілі шмат людзей, прычым тых, хто апынуліся ў рэдакцыі выпадкова. Яны забілі нават простага працоўнага, які мяняў бутэлькі вады ў аўтамаце, што стаяў у офісе. Гэта ўсіх шакіруе.

Таму я думаю, што атака на «Charlie Hebdo» — гэта выхадка шпаны, якая мела грошы купіць зброю і якая вырашыла паказаць сваю «крутасць», каб загінуць стоячы са зброяй у руках. Усе патрабаванні і ўся іх крытыка грамадства — на ўзроўні першакласнікаў. Як давалі апошнія падзеі, вайну ўнутры Францыі ісламісты арганізаваць няздольныя.

# Чырвоны Акропаль

Алег НОВІКАЎ

**Падаецца, што прыход радыкальных сацыялістаў да ўлады ў Грэцыі па выніках выбараў 25 студзеня немінучы. Чым закончыцца новы левы эксперымент для Грэцыі і для Еўропы?**




Алексіс Цыпрас

Ёсць, праўда, меркаванне, што ўсё будзе гэтак жа, як у 2012 годзе, калі левыя таксама атрымалі большасць на выбарах. Бо фармальнай перамогі блоку «Syriza» — кааліцыя радыкальных левых — на выбарах недастаткова. Пасля трэба будзе яшчэ сфармаваць урадавую большасць у парламенце, дзе сядзяць 300 дэпутатаў. Аднак скалаціць яе 42-гадоваму Алексісу Цыпрасу (Alexis Tsipras), лідару «Syriza», будзе цяжка, нават з улікам таго, што грэчаская выбарчая сістэма дае партыі, што прыйшла першай на выбарах, 50 дадатковых мандатаў.

Паколькі камуністы (іншая левая партыя ў парламенце), лічаць Алексіса і яго сяброў прайдзісветамі і рэвізіяністамі, шукаць падтрымку яму давядзецца ў іншых. Кампанію «Syriza» можа скласці партыя шоўмена Стаўраса Тэдаракіса. Патэнцыйна «Syriza» гатовая весці перамовы і з Георгіясам Папандрэу — нашчадкам славутай дынастыі грэчаскіх палітыкаў-сацыялістаў. Напрыканцы снежня нечакана для ўсіх Папандрэу пайшоў у адзіночнае плаванне з новым праектам «Рух за дэмакратыю і сацыялізм».

Урад, які сфармаваны з удзелам «To Potami», партыі Папандрэу, відавочна будзе больш умераны ў сваіх патрабаваннях, чым аднапартыйны кабінет «Syriza».

Аднак існуе і іншы сцэнар. Па-першае, Папандрэу і Тэдаракіс могуць не набраць патрэбныя тры працэнты для праходжання ў парламент. Па-другое, у выпадку, калі Цыпрас будзе прэм'ер-міністрам, і ўрад сфармаваць не атрымаецца, будуць абвешчаныя новыя выбары. У краіне, дзе 38 працэнтаў насельніцтва жыве за мяжой беднасці, а ўсе старыя партыі, пабываўшы пры ўладзе, скампраметавалі сябе, вынік новых выбараў будзе такі: «Syriza» ўмацуе свой папярэдні вынік і зробіць чарговы крок да ўлады.

Адным словам, калі сітуацыя кардынальна не зменіцца, рана ці позна пункты выбарчай праграмы левых стануць павесткай дня для працы ўраду.

Чаго жадае «Syriza»? Як не дзіўна, нічога ўльтрарэвалюцыйнага. Прынамсі, у эканоміцы яе патрабаванні даволі сціплыя — стымуляванне развіцця «зялёных тэхналогій», стварэнне новых 300 тысяч рабочых месцаў, прыпыненне прыватызацыі, зніжэнне падатку на ўласнасць, павелічэнне дзяржаўных інвестыцый, выпуск талонаў на харчаванне для бедных грамадзян. Праграма па сутнасці спісаная ў Франкліна Рузвельта — стымуляцыя ўнутранага попыту, які можа даць імпульс росту вытворчасці. Стартам для пераменаў, на думку кіраўніцтва «Syriza», могуць стаць новыя перамовы з «Тройкай» (Еўракамісія, МВФ і Еўрапейскі банк) і перагляд умоваў выдачы крэдытаў, якія раней, адпаведна ліберальным рэцэптам, даваліся грэкам пад скарачэнне сацыяльных выдаткаў.

**Чаго жадае «Syriza»? Нічога ўльтрарэвалюцыйнага. У эканоміцы яе патрабаванні даволі сціплыя — стымуляванне развіцця «зялёных тэхналогій», стварэнне новых рабочых месцаў, прыпыненне прыватызацыі, зніжэнне падатку на ўласнасць...**

Але нават левыя эканамісты асцярожныя ў сваіх прагнозах наконт перспектыў рэалізацыі праграмы «Syriza», паколькі ўсё будзе ўпірацца ў пазіцыю Тройкі...

Цікава, што лідары «Syriza» кажуць, быццам не баяцца шантажу з боку «Тройкі», паколькі ў іх ёсць моцная падтрымка прафсаюзаў ЕС і нават свае людзі ў некаторых урадах краін Еўрасаюзу. Напрыклад, днямі ўрад Італіі намякнуў на падтрымку Грэцыі.

Будзем спадзявацца на дыялог, паколькі канфлікт «Тройкі» і Афінаў робіць будучыні Грэцыі яшчэ больш туманнай. Што рабіць еўракрэдыторам, калі Грэцыя адмовіцца ад еўра і пачне друкаваць свае грошы? Як доўга можа грэчаскі ўрад рабіць плацяжы па актуальных крэдытах перад тым, як адмовіцца ад еўра? Што будзе з грэчаскімі дзяржаўнымі аблігацыямі? Як адрэагуе мясцовая банкаўская сістэма краіны на тое, што фінансавыя ўстановы не будуць здольныя працаваць з Цэнтральным Еўрабанкам? Як новы ўрад паспрабуе выратаваць новыя грошы ад інфляцыі? І якой будзе рэакцыя грамадства на такія эканамічныя метамарфозы? Як доўга грэкі могуць падтрымліваць палітыку жорсткай лініі адносін з «Тройкай»? Гэта толькі частка пытанняў, адказы на якія пакуль ніхто не можа адважыцца даць.

З іншага боку, усе каментатары прызнаюць, што падзеі ў Грэцыі ў любым выпадку будуць мець міжнародную рэакцыю, паколькі сімвалічны капітал перамогі «Syriza» каласальны. Упершыню з часоў развалу СССР у Еўропе з'явіцца сацыялістычны ўрад, які ў дадатак абраны дэмакратычным шляхам. Грэцыя дакладна стане прыкладам для іспанцаў, якіх увесну заклікаюць на мясцовыя выбары. Мясцовы і іспанскі аналаг «Syriza» — кааліцыя «PODEMOS», якая карыстаецца падтрымкай трацінь электарату, можа перамагчы на мясцовых выбарах і закласці фундамент для перамогі на нацыянальных выбарах у 2016 годзе. У любым выпадку, інтарэс да Грэцыі будзе і ў рабочых Францыі, дзе на днях пабіты гістарычны рэкорд па колькасці беспрацоўных.

А, напрыклад, некаторыя ўкраінскія левыя мяркуюць, што сацыяльная праграма «Syriza» можа стаць асновай для праграмы новага сацыяльнага Майдану, які шмат хто прагназуе на вясну. Для польскіх левых грэчаскі вопыт цікавы перш за ўсё як практыка будаўніцтва новай палітычнай сілы на базе грамадскіх ініцыятыў.

А вось расійскія ўра-патрыёты лічаць, што перамога «Syriza», якая не асудзіла анексію Крыма і крытыкуе палітыку санкцый супраць Расіі, прывядзе да стварэння на Балканах моцнага прамаскоўскага лобі.

Але пакуль дакладна можна сказаць толькі тое, што Грэцыю чакаюць дынамічныя перамены ў адміністратыўнай сферы. «Syriza» звязаная з грамадскім сектарам, адкуль будзе набіраць новых чыноўнікаў і будаваць сваю палітыку з апорай на няўрадавыя праекты. Некаторыя аглядальнікі нават мараць, што ў Афінах у часы кадэнцыі «Syriza» могуць паўстаць новыя формы дэмакратыі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Лютц Бахман



Адзін з ініцыятараў стварэння і нефармальны лідар ісламафобскага руху «Патрыятычныя еўрапейцы супраць ісламізацыі Захаду» (PEGIDA) зрабіў першы крок у трансфармацыі нефармальнай ініцыятывы ў палітычную партыю. 13 студзеня ў Лейпцыгу афіцыйна зарэгістравана аб'яднанне з такой жа назвай. Адпаведна статуту, арганізацыя выступае за дэмакратычнае грамадства, якое адмовіцца ад палітыкі мультыкультурнасці, комплексу віны немцаў за Другую сусветную вайну. Яшчэ адной з фішак ідэальнага, на погляд Бахмана, грамадства мае быць шырокая прапаганда нацыяльных каштоўнасцяў. Па сутнасці такія фармулёўкі падобныя на праграму большасці праварадыкальных нямецкіх партый, што можа сур'ёзна паўплываць на імідж PEGIDA, якую падтрымлівала шмат простых бюргераў. Спрэчкі вакол мэтаў арганізацыі ўзніклі яшчэ на пасяджэнні аргкамітэту руху, якое адбылося яшчэ ў лістападзе. Тады прадстаўнікі гамбургскай секцыі заявілі, што пакідаюць зборы, паколькі лічылі, што галоўная задача праекту PEGIDA барацьба супраць дзіцячай парнаграфіі, а не рэвізіянізм вынікаў Другой сусветнай вайны. Там не менш пакуль акцыі PEGIDA застаюцца стабільна масавымі, што вельмі непакоіць дэмакратычную грамадскасць ФРГ.

### Эмамалі Рахмон



Прэзідэнт Таджыкістана, як высвятляецца зараз, яшчэ і вялікі гісторык. Міністэрства адукацыі Таджыкістана абавязала кіраўнікоў навучальных устаноў краіны арганізаваць вывучэнне кнігі прэзідэнта Эмамалі Рахмона «Таджыкістан у люстэрку гісторыі». Як растлумачыў прадстаўнік міністэрства, распараджэнне накіравана на падвышэнне ўзроўню ведаў моладзі па гісторыі радзімы. Цікава, што ў сваіх каментарах знаўцы таджыкскага аўтарытарызму лічаць, што Рахмон стаў ахвярай моды. Прэзідэнт Таджыкістана выглядаў белай варонай на фоне калегаў з суседніх краін. Ва Узбекістане і Туркменістане працы і выступы прэзідэнтаў не толькі вывучаюць у навучальных установах, але часам нават здаюць па іх іспыты. Падобна, хутка вывучаць кнігі свайго прэзідэнта прыйдзецца і школьнікам Казахстана. За гэта выступае, да прыкладу, «Кангрэс гісторыкаў Казахстана», прапануючы «ўключыць у адукацыйныя праграмы школ, каледжаў і ВНУ абавязковае вывучэнне выказванняў пра незалежнасць, з якімі Елбасы (па-казахску «Лідар нацыі» — афіцыйны тытул Назарбаева) звяртаўся да нацыі.

### Ільхам Алиеў



Прэзідэнт Азербайджана нечакана даў згоду на пачатак кансультацый з апазіцыяй. Ужо адбылася сустрэча паміж кіраўніком дэпартаменту па палітычных пытаннях адміністрацыі прэзідэнта і лідарамі апазіцыі. У дыялогу з боку праціўнікаў улады ўдзельнічалі старшыні партыі Класічны народны фронт, Азербайджанскай дэмакратычнай партыі, Ліберал-дэмакратычнай партыі Азербайджана, Народнай партыі Азербайджана. Афіцыйная прэса прапануе разглядаць сустрэчу як знак таго, што ўлада ў краіне выяўляе волю ўсіх грамадзян і прааўляе гатоўнасць талерантна прымаць крытыку. Самае смешнае, што на сустрэчы апазіцыі параілі прыпыніць узаемныя спрэчкі і нарэшце аб'яднацца. Як вядома, азербайджанскія апазіцыйныя партыі не змаглі высунуць адзінага кандыдата на апошніх прэзідэнцкіх выбарах, а пасля паразы на выбарах канфлікты ў іх лагеры яшчэ больш узмацніліся. У мінулую восень на парозе расколу аказалася самая старая ў краіне палітычная партыя «Мусават». Магчыма, адсутнасць нават апанентаў-статыстаў на выбарах і палохае Аліева, які намагаецца рабіць сябе на Захадзе імідж дэмакратычнага палітыка.

# Этнапрастора Івана

Напэўна, гэта самы таямнічы чалавек беларускай этнічнай музыкі, пра што наўпрост сведчыць яго сольны монаспектакль «Варажбіт». І адначасова — самы вядомы як стваральнік і кіраўнік легендарнай ужо «Троіцы». На мой погляд, справа тут не ў нейкай іміджавай містыцы, а ў яго ўнікальным таленце і жаданні вяртаць людзям страчанае.

Рабочы кабінет выкладчыка педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Івана Іванавіча Кірчука — частка асабістага музею фальклору. З часам фальклор стаў амаль галоўным сэнсам яго жыцця, таму кожны экспанат успрымаецца як нешта цудоўнае і чарадзейнае.

**Аляксандр Тамковіч**



## Містэрыі старажытнага

Думаю, лагічна пачаць менавіта з Калядных святаў, бо калядныя абрады чымсьці нагадваюць жывыя батлеі. У розных рэгіёнах Беларусі людзі калядавалі па-рознаму, таму вызначыць нейкую ўніверсальную колькасць масак немагчыма па вызначэнні.

Напрыклад, ёсць варыянты, дзе калядуюць адразу некалькі гуртоў. Са студэнтамі мы распрацавалі розныя варыянты сцэн, а з завочнікамі нават знялі відэа, дзе на падворку гаспадара сустрэліся адразу тры гурты. У кожнага з іх была свая «каза», і гучалі тры варыянты калядных напеваў. Так, тры розныя танцы і напевы аб'ядналіся ў адну вялікую сцэну.

У маёй калекцыі шмат масак. Акрамя «казы» ёсць, напрыклад, «дзед і баба», «цыган з цыганкай», «конь і салдат», «цар і царыца», «чорт і смерць», «анёлы» і — успамін пра Смаргонскую акадэмію — «мядзведзь».

У даўніну такія маскі рабілі толькі на святы, а потым іх спальвалі, бо для людзей, якія верылі ў Бога, захоўваць іх лічылася вялікім грэхам. Не палілі толькі Калядную Зорку, таму што яна лічылася Віфлеемскай.

Мае маскі зроблены прафесійным бутафорам тэатру імя М. Горкага Іванам Міцько.

Першую класічную «Батлейку» я зладзіў у 1989 годзе. Быў такі майстар (на жаль, ужо памерлы) Васіль Цішко. Яго каманда распрацавала вялікія (80 сантыметраў) лялькі для «Батлейкі», з якой можна было выступаць на буйных пляцоўках горада. Менавіта тады я быў рэжысёрам гарадскіх святаў на Машэрава, праводзіў там і «Купале», і «Каляду», і іншыя мерапрыемствы.

На жаль, зараз той «Батлейкі» ў мяне не засталося. Прыйшлося яе пакінуць у Цэнтры этнаграфіі і фальклору «Каляндар», але гэта стала своеасаблівым штуршком. Я пачаў збіраць адпаведныя матэрыялы, а ў наступным годзе (1990) паехаў да знаўца даўніны і майстра музычных інструментаў Алеся Ляся ў Залессе, які даў мне кансультацыю па ляльках.

На маю просьбу майстар Анатоль Муравейка зрабіў прыгожую і невялікую «Батлейку» (метр на метр), за якой мог працаваць усяго адзін чалавек. Яна была ў выглядзе царквы — трохярусная: «зямля», «неба» і «пекла». Падчас выступленняў змяняліся толькі крыжы (праваслаўныя і каталіцкія), для розных сцэнарыяў.

З гэтай «Батлейкай» у 1999 годзе я праехаў амаль усю Боснію і Герцагавіну. 10 гарадоў плюс тэатральны фестываль у Сараева. Выступаў пераважна ў школах, бальніцах, якія толькі-толькі паспелі наладзіць сваю работу пасля вайны. Нягледзячы на тое, што ў іх краіне няма такой традыцыі, «Батлейку» ўспрымалі добра.

Выключэннем стаў толькі выпадак у горадзе Мостар. Памятаю, дзяцей сабралася так шмат, што нават падумалася наконт мікрафона, і тут — нечаканы званок. Усе дзеці пабеглі ў класы.

Потым высветлілася, што праблема ўзнікла з-за крыжоў маёй «Батлейкі». Аказалася, пад царкоўным крыжам падчас вайны расстралялі жонку і дзяцей дырэктара той школы. Прыйшлося тэрмінова замяніць «Батлейку» на маскі і музычныя інструменты...

Увогуле, рэлігійныя моманты для тых мясцін былі асабліва знакавымі. Уявіце: з аднаго боку рэчкі спаленыя праваслаўныя цэрквы, з другога — парушаныя мячэці. Значна дапамагло тое, што перакладчыкам у мяне быў мусульманін, які працаваў у гэтай якасці яшчэ ў былой Югаславіі.

Дарэчы, лялечныя тэатры ёсць у розных краінах Еўропы. У нас — «батлейка», у палякаў — «шопка», у рускіх — «вярцеп».

Па майму перакананню, з духоўнай спадчынай трэба абыходзіцца вельмі асцярожна. Асабліва з абрадамі, дзе за кожным стаіць пэўны людскі досвед. Рэканструкцыяй абрадавых святаў я займаюся з 1983 года і лічу гэтую тэму для сябе самай балючай.

Сумна глядзець, як памылкі становяцца правілам. Напрыклад, на купальскім вогнішчы спальваюць рэчы хворага, і ўсе праз агонь скачуць, не разумеючы, што гэтага рабіць нельга ні ў якім разе!

**Першыя дзіцячыя ўспаміны ў мяне звязаны з Калядамі і навагоднімі святамі, з падарункамі, набыць якія тады было праблемай. Калі наша суседка ў Маскве набыла алавяных салдацікаў, а потым аднаго з іх падарыла мне, гэта была падзея**

Альбо возьмем вясельныя абрады. Ніколі не было ў нас традыцыі ўпрыгожваць вясельны транспарт паветранымі шарамі. Як трапна заўважыла адна мая студэнтка, атрымліваецца «надзмутае шчасце». Не ўпрыгожвалі іх і лялькамі — імітацыяй дзяцей. Нельга арыентавацца на натоўп. Людзей трэба прывучаць да правільнага разумення спадчыны продкаў з самага дзяцінства.

## Золак жыцця

Маё дзяцінства пачалося 14 верасня 1958 года ў горадзе Ліда. Нейкі час нават літаратурны псеўданім быў «Ян Ліда», але прыйшлося ад яго адмовіцца, бо падпісваць несапраўдным прозвішчам тыя ж навуковыя работы па фальклору было б няправільна.

Бацьку звалі Іван Казіміравіч. Бацька быў высокі, дужы. Вышэй за мяне. Пад два метры ростам. Маці завуць Гэлена Тамашаўна. Дзякуй Богу, яна жывая па наш дзень, хаця з-за цукровага дыябету ўжо тры гады нічога не бачыць. Яе даглядае сястра Ала, якая выкладае ў Лідскай музвучэльні па класе «акардэон».

Этнічна бацькі, як і многія ў нашых мясцінах, палякі, таму да шасці гадоў я размаўляў толькі на польскай мове.

Бацькі прыгожа спявалі ў касцельным хоры падчас набажэнстваў і часта бралі мяне з сабой. У тыя часы атэізму дзяржава ставілася да ўсяго рэлігійнага агрэсіўна-варожа. Мяне таксама выклікалі да дырэктара і дапытвалі, чаму я хаджу туды.

Першыя дзіцячыя ўспаміны ў мяне звязаны з Калядамі і навагоднімі святамі, з падарункамі, набыць якія тады было праблемай. Калі наша суседка ў Маскве набыла алавяных салдацікаў, а потым аднаго з іх падарыла мне, гэта была падзея. Я, пяцігадовы тады хлопчык, ледзь не страціў прытомнасць...

Запомніўся мне прыезд да нас у мой перадшкольны год бабулі Кацярына з-пад Гародні. Яна таксама была палькай, але размаўляла ўжо на «трасянцы». З гэтай прычыны ў яе з маёй маці перыядычна былі спрэчкі, бо тая не вельмі хацела, каб дзеці размаўлялі менавіта так.

У хаце гучалі розныя песні — і польскія з беларускімі, і украінскія з рускімі. І нават літоўскія, таму што мая мама нарадзілася ў Літве. Спявалі ўсё, што тады гучала. Акрамя, натуральна, тых народных песняў, якія ведалі толькі нашы бабулі і дзядулі.

Дарэчы, дзед па лініі маці Тамаш быў з даволі багатай сям'і, а яго браты выраблялі скрыпкі і акардэоны. Ён жыў у Варшаве, дзе меў уласны маёнтак, млын. Потым быў раскулачаны саветамі.

У дзеда Тамаша і бабулі Паўліны было 14 дзяцей. Многія з іх добра спявалі, так што мае гены, напэўна, адтуль. Да таго ж бацька меў патэфон. Ён быў зацятым збіральнікам запісаў, выдатна ведаў папулярныя аперэты, асобныя арыі мог праспяваць літаральна адзін да аднаго. Я з дзяцінства запомніў італьянскія песні ў выкананні Раберціна Ларэці.

Пасля васьмігодкі я вырашыў пайсці вучыцца на марака, таму што ім быў брат маці, які жыў у Рызе. Але бацькі не зразумелі гэта памкненне, моцна спужаліся і нікуды не пусцілі.

Мой бацька працаваў тады інжынерам будаўнічай арганізацыі, якая якраз будавала ў Лідзе першую музычную вучэльню, і параіў абраць менавіта яе. У тым узросце я яшчэ не мог яму пярэчыць, таму пагадзіўся без спрэчак.

Ніякай музычнай адукацыі ў мяне не было, але я вельмі добра спяваў. У той час у Гародні быў музычны фестываль, які называўся «Вам наши песни». Я атрымаў там узнагароду і быў накіраваны ў Саюз кампазітараў на праслухоўванне.

Але там здарыся канфуз — мутацыя голасу. Запусціў «пеўніка». Спалохаўся. На шчасце, там усё зразумелі і прынялі па спецыяльнасці «харавое дырыжыраванне». Першы год спяваў фальцэтам у жаночым хоры. Атрымлівалася амаль анекдатычна: адкрываецца сцэна, аб'яўляюць жаночы хор лідскай музвучэльні, і тут — у цэнтры я з «бабачкай».

Яшчэ ў мяне ёсць дзве малодшыя сястры — Ала і Марыя. Яны таксама пашлі «музычным» шляхам. Ала абрала акардэон, а Марыя — цымбалы, праўда, зараз яна працуе ў іншай галіне.

Падчас вучобы захацелася займацца сур'ёзнай музыкай. У мяне былі розныя гурты, з якімі ігралі на танцах, але марылася пра нешта большае. Мне падабаліся вершы Гётэ, Байрана, Шэкспіра, і я пачаў пісаць на іх мелодыі. Потым рабіць з іх харавыя партытуры. Некаторыя з іх у выкананні хору «Менка» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Сінельніка на 6–8 галасоў пазней усё ж такі прагучалі.

Аднак лёс унёс у гэтыя планы пэўныя карэктывы. Пасля вучэльні я трапіў у армію, дзе ў чыгуначных войсках праслужыў з 1977 па



# Кірчука



1979 гады. Першы год у Яраслаўлі. Стварыў ВІА «Алавяны салдацік», але хутка атрымаў спагнанне за такую недарэчную назву. Тады мы пераназваліся «Грэнадзёрамі». Спяваў, граў на клавішах.

Другі год службы праходзіў на БАМе — у тайзе валілі лес, будавалі дарогі, масты. Было зусім не да музыкі, таму «на гражданку» вярнуўся разгубленым. Не ведаў, што буду рабіць.

Потым крыху, як гаворыцца, агледзеўся і пачаў збіраць дакументы для паступлення ў кансерваторыю. Праслухоўваўся ў прафесара Віктара Роўды. Паказаў свае творы. Яму спадабалася. Параіў рыхтавацца да экзаменаў.

Але я спужаўся, што пасля БАМУ мне не хапае падрыхтоўкі. Тым больш, што ў той час паступала «адзінаццацігодка» — усе з выдатнай музычнай адукацыяй. Патэлефанаваў сваёй знаёмай, жонцы кампазітара Віктара Войцека — Святлане, якая выкладала ў мяне ў музвучэльні. «Зараз працую ў інстытуце культуры, — сказала яна, — у прафесара Станіслава Дробыша. Ёсць цікавыя задумкі наконт народна-харавых спеваў. Прыходзь да нас!»

Так і зрабіў. Здаў уступныя экзамены і стаў студэнтам Мінскага інстытута культуры.

### Менестрэлі лёсу

У 1980 годзе ў Мінск прыехаў знакаміты расійскі фальклорны ансамбль Дзмітрыя Пакроўскага. І гэта быў не той рускі фальклор, які сёння паказваюць выканаўцы накшталт Бабкінай. Ансамбль Пакроўскага праз песні паказаў Поўнач, Поўдзень Расіі, Байкал, казакоў і г.д.

Добра памятаю, што тады мяне вельмі здзівіла, што ўсе песні былі выкананыя ў розных манерах, як гэта спяваюць у розных расійскіх рэгіёнах. А не ў той псеўдарускай манеры, якую прапагандавалі Зыкіна, Мардасава, завадскія, фабрычныя альбо школьныя хары. Тады я і вырашыў, што буду займацца фальклорам, таму што Беларусь таксама вельмі цікавая краіна. У нас — межы з Латвіяй, Літвой, Польшчай, Украінай, Расіяй, цудоўная культурная спадчына.



Янэк з бабуляй Кацярынай у Лідзе. Новы 1988 год

У 1982 годзе я перавёўся на завочнае аддзяленне і пайшоў працаваць у Мінскае культпрасветвучылішча. Дарэчы, там пачаў збіраць уласны этнаграфічны музей.

Першая экспедыцыя была ў вёску Сарачы Любанскага раёна Мінскай вобласці. Там Шмялёва Пелагея Міхайлаўна спявала мне з дзесяці гадзін раніцы да часу ночы.

Адзін раз толькі перарвалася «пакарміць курачак». Я запісаў 100 песняў. А потым яна кажа: «Гэта песні не мае». Я вельмі здзівіўся і спытаў: «Чаму?». Яна ў адказ: «Гэта песні маёй маці». Я здзівіўся яшчэ больш, бо сам ведаў толькі некалькі песняў маці, а тут — 100 штук.

Многія з гэтых песняў увайшлі ў праграму фальклорнага калектыву «Дзіва», з якім я потым працаваў, частка — у сольныя праграмы, а некаторыя былі выкарыстаны падчас заняткаў са студэнтамі. Зараз гэтыя матэрыялы апрацоўвае «Троіца».

Падчас працы ў вучылішчы пачаў пісаць праграмы і сцэнарыі пастановак абрадаў, свят, бо дагэтуль іх проста не існавала. Потым дзяржаўныя экзамены па рэканструкцыі абрадаў нават здымала Беларускае тэлебачанне.

У 1985 годзе паступіў у аспірантуру да прафесара Канстанціна Кабашнікава, але скончыць яе не атрымалася, таму што было шмат гастроляў з фальклорным ансамблем «Дзіва». Так што зараз я маю пасаду дацэнта, але не маю навуковай ступені. Як і розных творчых званняў, дарэчы. Аднойчы гэта нават стала прычынай для даволі камічнай сітуацыі.

У 1996 годзе мы некалькі разоў ездзілі з канцэртамі гурту «Дзіва» на Кубань па запрашэнні Кубанскага казацкага хору, якім кіруе Віктар Захарчанка. Пасля чарговага выступу (чацвёртага, здаецца) ён спытаў, чаму ў Беларусі на мяне не звяртаюць увагу. Я патлумачыў тым, што з гэтай нагоды не грукаю ў дзверы кабінетаў чыноўнікаў Міністэрства культуры.

Тады Захарчанка і пяць мясцовых прафесараў-музыкаў напісалі адпаведны ліст беларускаму прэзідэнту. Але за гэтым далей нічога не адбылося.

На жаль, за мяжой нас больш ведаюць, чым у самой Беларусі. Нават быў такі выпадак, калі пасля выступу ў беларускім санаторыі Сочы на сцэну падняўся чарговы беларускі міністр культуры і кажа: «Адкуль вы? Чаму я вас не ведаю?»

І быў вельмі здзіўлены, што гурт з Мінска працуе ўжо дзесяць гадоў. Аказалася, ён нас ніколі не бачыў.

### Нараджэнне «Троіцы»

А нарадзілася «Троіца» так. У 1995 годзе я працаваў намеснікам дырэктара Нацыянальнага цэнтра дзяцей і моладзі на вуліцы Кірава. Да мяне завіталі два знаёмых музыкі — Віталь Шкілёнак і мой былы студэнт Зміцер Лук'янчык. Яны і прапанавалі зладзіць новы гурт.

Даводзілася чуць, што «Троіца» было створана ў піку «Палацу». «Палац» граў электронную музыку. Мы абралі іншае — акустычнае, натуральнае гучанне музычных інструментаў. Зрабілі некалькі песняў, якія паказалі на імпрэзах, арганізаваных шэрагам замежных амбасад.

Нашы песні вельмі спадабаліся дыпламатам. Яны казалі, што гэта надзвычай падобнае да іх родных песняў. Мы шчыра здзівіліся таму, што чыста беларускія кампазіцыі могуць быць такімі блізкімі французам альбо швейцарцам. Відаць, аранжыроўкі, гучанне народных інструментаў нагадалі ім нешта сваё, роднае.

Пасля такой пахвалы, натуральна, паверылі ў свае сілы, сталі больш працаваць. І нас запрасіў на рок-фестываль у Піцер Юры Шаўчук. Зноў прыемна здзівіліся.

Перад паездкай у Санкт-Пецярбург ён прапанаваў выступіць перад яго канцэртам у Мінску. І прадставіў нас цудоўнымі словамі: «Зараз выступяць музыкі, якія мне вельмі падабаюцца, але вы іх не ведаеце».

Пасля паспяховага выступу ў Піцеры, Стас Намін запрасіў на фестываль этнічнай музыкі на Чырвонай Плошчы. Пра нас загаварылі. У тым ліку і ў Беларусі.

Мы аддалі касету з запісамі нашых песняў на беларускі конкурс «Уступи дорогу», а самі паехалі на гастролі за мяжу. Пакуль гастралявалі, касета завявала першая месца, і нам далі «гадзінкі» працы ў студыі. Гэта дазволіла зрабіць запіс першага дыска з назвай «Троіца».

З гэтага ўсё і пачалося.

У цэнтры дзяцей і моладзі я працаваў толькі два гады, а ўжо ў 1997-м стаў выкладаць на кафедры этналогіі і фалькларыстыкі Дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Займаюся гэтым ужо больш як сямнаццаць гадоў.

Літаральна некалькі словаў пра асабістае. Я тройчы жанаты. Ад кожнага шлюбу па сыну. Са старэйшымі (33 і 26 гадоў), на жаль, ніякіх адносін няма. 14 гадоў жыў адзін. А некалькі год таму на маім жыццёвым шляху сустрэлася Кацярына. Яна таксама займаецца фальклорам, аспірантка і выкладчык ва ўніверсітэце. У мінулым годзе нарадзіла мне сына Стэфана.

### Аўтабаны фальклору

З «Троіцай» (у якасці гурту) мы аб'ехалі шмат краін. Але ў пачатку 1999 года адчулі творчы крызіс і вырашылі скончыць сумесную работу. На той момант я быў запрошаны на фестываль у Венгрыю і з лялечным тэатрам «Батлейка» ў Боснію. Вырашыў ехаць адзін. Усё гэта ёсць у кнізе «Аўтабаны і менестрэлі».

Сольныя канцэрты і тэатральныя выступы прайшлі выдатна, пасля іх наш даўні сябар Марцін Voorbij прапанаваў шэраг новых праектаў, у тым ліку і стварэнне новай «Троіцы».

Адзін з маіх студэнтаў гітарыст Юрый Дзмітрыеў пагадзіўся паспрабаваць. Гэтак жа, як і мой добры знаём Юрый Паўлоўскі, які працаваў у гурту «Князь Мышкін».

Атрымалася. Ужо праз месяц паехалі на буйны фестываль у Галандыю. У дзень было па тры выступы — раніцай для дзяцей лялечны спектакль батлейкі, потым днём і вечарам канцэрты. І гэтак 10 дзён!

У 1999 годзе пачало працаваць этнатрыа «Троіца», якое на сённяшні дзень мае каля ста ўдзелаў у замежных фестывалях (ад Малайзіі да Партугаліі), саўндтрэкі да фільмаў і пяць кампакт-дыскаў.

На шчасце, сёння ўвага да фальклору крыху пабольшылася. На тым жа фестывалі «Камяніца» было больш за сем тысяч гледачоў. А адбываецца ўсё, на мой погляд, па вельмі простай прычыне — ёсць глеба. Адных толькі тамоў серыі «Беларуская народная творчасць» ужо, напэўна, каля пяцідзесяці. Плюс сотні, а то і тысячы запісаў песняў бабулек, якія памятаюць свае мінулае.

Гэта плюсы.

Мінусы ж у тым, што зараз фактычна няма пляцовак, дзе людзі маглі б паказваць сваю творчасць. Што такое два-тры фестывалі на ўсю краіну? Дробязь. Напрыклад, у Канадзе на кожны год прыходзіцца некалькі сотняў (па розных накірунках) фальклорных фестываляў.

Альбо фестываль «Zeget» у Венгрыі. Там можна згубіцца. Сорак пляцовак працуюць цэлы тыдзень. Людзі па каталогах выбіраюць тое, што ім больш падабаецца.

У той жа Галандыі на розных фестывалях мы працавалі сем гадоў. І не толькі ў буйных гарадах. Фэсты праходзілі ў маленькіх вёсачках. Галандцам гэта надзвычай цікава.

У фальклорным жанры ў заходніх краінах працуюць дзясяткі, сотні калектываў. А ў нас? Акрамя «Тройцы» — «Палац», «Крыві», Маша Яр... Чыста фальклорных гуртоў катастрафічна мала.

Зараз я даволі часта сустракаюся з кіраўнікамі творчых калектываў і чую адно і тое ж. Яны могуць падрыхтаваць праграму, але не ведаюць, дзе яе можна паказаць.

Задаюць пытанні наконт нашага ўдзелу ў замежных фестывалях. Адказваю, што, як і ўсе, мы шукаем патрэбную інфармацыю ў інтэрнэце, альбо нешта знаходзім з дапамогай знаёмых. Гэта зараз, а бывалі часы, калі мы рассылалі па фестывалях да 500 дыскаў з запісамі сваіх песняў і не атрымлівалі аніводнага станоўчага адказу.

Мы маем багаты архіў фальклорных спеваў. Падчас экспедыцый я аб'ехаў амаль усю Беларусь, адных толькі бабін (хто пажыў, ведае, што такое «магнітныя стужкі») з запісамі маю каля сотні, плюс касеты.

З экспедыцый запомнілася нямала. У 1986 годзе, напрыклад, у вёсцы Гаўрычыцы Салігорскага раёну я запісаў выдатны мужчынскі спеў, які потым прывёз на рэспубліканскае радыё. Спявалі так, што ў мяне, як кажуць, ад захаплення валасы на галаве «ўставалі дыбам». Цяпер гэта вядомы сямейны калектыў Бойкаў.

Не магу таксама не ўспомніць вёсачку Гоцк, што недалёка ад Гаўрычыц. Акрамя запісу песняў я збіраў рэчы для музейнай калекцыі і розных абрадаў. Зайшоў у адну хатку — дзве бабулькі, вельмі чысценька, усё саматканае. Уражаны спытаў, як ім удалося зберагчы гэтую прыгажосць падчас вайны? Расказалі, што вышываныя рэчы яна хавалі ў куфар і закапвалі.

Паміж маімі першай і апошняй экспедыцыямі — больш як чвэрць стагоддзя і вельмі шмат зменаў. На жаль, не ў лепшы бок. І не толькі таму, што пайшлі з жыцця цудоўныя выканаўцы беларускага фальклору. Вельмі моцна густ нашых людзей сапсавала тэлебачанне. Перадачамі накшталт «Запрашаем на вячоркі» альбо «Спявай душа». Людзей робяць аднолькавымі, перарабляюць шчырасць у шоў. Калі бабуля ў нацыянальным строі на сцэне сядае на шпагат, то ніякага фальклору тут не можа быць і блізка. Мне здаецца, гэта не рэжысура нейкага свята, а здзекі з нашага мінулага.

Дзеля таго, каб іх запрашалі на тэлебачанне, калектывы становяцца падобнымі адзін да аднаго, а ўвесь фальклор абмяжоўваецца песнямі «Цячэ вада ў ярок» і «Ехаў Ясь на кані».

На мой погляд, галоўная праблема нашай краіны ў тым, што беларускае застаецца недзе ўбаку. Мы захапляемся іншымі культурамі (японскай альбо кітайскай, напрыклад) і не звяртаем увагі на сваё. Некаторыя на гэтай зацікаўленасці зарабляюць добрыя грошы.

У верасні 2014 года выйшла яшчэ адна мая кніжка «Гарыць свечка ля алтара...». У яе ўвайшлі мае сны, іх расшыфроўкі, вершы, складзеныя ў дарозе, трошкі прозы, успаміны пра наведванне святых мясцін, запісы, звязаныя з медытацыямі, духоўнымі практыкамі. Ёсць штосьці і аб «Троіцы», думкі пра продкаў, род, сям'ю, Беларусь. Ёсць там нават мае малюнкі.

Як вядома, попыт нараджае прапанову. Упэўнены, калі б зварот да культурнай спадчыны продкаў пачынаўся ў сям'і, умацоўваўся ў дзіцячым садку, школе, вышэйшых навучальных установах, вынікі былі б зусім іншымі.




# Запрашаем на прэзентацыю

**Прэзентацыя кнігі кандыдата гістарычных навук і нашага журналіста Ігара Мельнікава «Заходнебеларуская Атлантыда» адбудзецца 23 студзеня а 18.00 у сядзібе БНФ на Чарнышэўскага, 3.**

Усе жадаючыя змогуць пазнаёміцца з аўтарам і задаць яму любыя пытанні, убачыць слайд-шоў з унікальных фатаздымкаў, набыць кнігу з аўтографам Ігара Мельнікава.

«Заходнебеларуская Атлантыда» — гэта другое выданне з серыі «Бібліятэчка Новага часу», якое ўбачыла свет у выдавецтве «Галіяфы» напрыканцы 2014 года.

Чытачы змогуць пазнаёміцца як з жыццём звычайных беларусаў у 1921–1939 гады, так і з біяграфіяй цікавых гістарычных асоб, звязаных з нашай краінай. Асаблівую цікавасць выклікаюць нарысы, прысвечаныя гісторыі крымiналу ў Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах міжваеннай Польшчы. Таксама чытачы даведаюцца пра ўдзел беларусаў у складзе польскага войска ў Верасьнёўскай кампаніі 1939 года, малавядомыя бітвы Войска Польскага з нямецкім вермахтам і Чырвонай Арміяй.

«Гэта кніга — вынік маёй пяцігадовай працы ў архівах розных краін. За гэты час я аб'ездзіў і ўбачыў шматлікія мясціны Беларусі і пазнаёміўся з цікавымі сведкамі той эпохі, якую мы зараз называем «міжваенны час». Акрамя гэтага, у маёй прыватнай калекцыі вялікая колькасць аўтэнтычных здымкаў, матэрыялаў і дакументаў 1920–1940 гадоў, частка з якіх апублікавана ў «Заходнебеларускай Атлантыдзе». Прыйшоў час, каб сучасныя беларусы адкрылі для сябе гістарычную праўду пра падзеі 1921–1939 га ў Заходняй Беларусі», — адзначыў Ігар Мельнікаў.

ЛІСТ У НУМАР

# Адусюль дзьме?

**Напрыканцы мінулага года ў цiхім мястэчку Падсвілле ўзбунтаваліся жыхары шматкватэрных дамоў. Не па палітычных матывах, а з-за адсутнасці належнага цяпла, гарачай вады, а часам і халоднай.**

Людзі ўсё яшчэ цвёрда ўпэўненыя, што варта паскардзіцца вышэй, і ты — пераможца. Гарачая лінія захапляе, прыдае натхнення і сілы. Бо яна ж адкрытая, запрашальная: «Званіце, паведамляйце па тэлефонах... Выратуем!» Вера грукае ў сэрца, а сэрца поўніцца верай.

І вось бачу я людзей з натхнёнымі тварамі ля дома. І маладых «апаратыўшчыкаў» са сталічнага тэлебачання. Здымаюць. Чую абураны, звонка-танклявы шчэбет жанчын з акампанементам мужчынскага барытону. Пра што, думаю, шум?

Кіраўнік кацельнай дэкларуе, што маняць усе тут, разам узятыя. «Таплю, — кажа — кожны дзень. Натапіў бы яшчэ мацней, каб ведаў, што прыедзе тэлебачанне». Але натоўп сілай колькасці галасоў перабівае апраўдальную энергію.

Абвінавачаныя трымаюцца стойка. Кіраўнік водаправоднай справы раённай ЖКГ (Віктар Клімаў) спантанна тлумачыць праблему, якая сёння, мабыць, цяжка вырашаецца. Але ён сцвярджае, што справа не стаіць на месцы, што ўсё робіцца і будзе рабіцца — у перспектыву ўключана пракладка новых труб. Ён называе лічбы сродкаў, адпушчаных на абнаўленне сістэмы. Але яго не чуюць. Усе, як гракі перад зразаннем дрэў з іх вёскай, крычаць, абараняюць свае жыхарскія інтарэсы. Бо плата за жыллёвыя паслугі імпэтна расце. Адкуль толькі бяруцца нейкія, нібы ўказы, што жыхары самі павінны аплачваць вонкавыя рамонты — плаціць ледзь не за паветра зверху і вакол дома. А дом № 59 па вуліцы Савецкай — пажылы. Яму чацвёрты дзясятак ідзе. Капітальнага рамонту не было. Вось адгуляў вецер, прадзьмуў і маю кватэру на пятым паверсе — было +14 градусаў у цяплейшым пакоі. На Каляды — марозна і ціха: +16 градусаў.

А гэта сцвярджае В., ускладаючы надзею на тэлебачанне.

— Яны абяцалі... І што яшчэ прыедуць... Вечарам, у 19 гадзін 30 хвілін будзем глядзець!

— Чаму не здымалі «закалдобленасць» у двары? — дапаўняе нейчы голас — і ў падвал хай бы завялі. Там жа згніло ўсё...

— Хочаш ты! Выклікалі ж па ацяпленню.

— Ну паглядзім — нешта ж пакажуць.

Пасля перадачы з вуснаў В. зляцеў уздых ці то клічнага, ці то запытальнага характару: «Ну нічога! Яшчэ пакажуць! Не апошні ж раз прыехалі».

А што можна паказаць за дзве хвіліны? Раскручваць праблему ніхто не збіраўся. Факт быў. Вакол яго некалькі слоў каментару. Пасля абмеркавання кадравай праблемы прэзідэнтам. А тут чакалі...

І толькі не чакалі, што праз дзень паклічуць «на дыван» «зачыншчыка» — настаўніка малодшых класаў — Мар'яна Эдуардавіча Сташулёнка — напісаць тлумачэнне за парушэнне працоўнай дысцыпліны (у сувязі з тэлескаргай перанёс факультатывы на наступны дзень). Бо павінен жа быў з'явіцца перад камерай. За гэта і пазбавілі яго снежаньскай прэміі — 75%.

Ядвіга Азарэвіч, прадпрымальніца, крые, што ёй баяцца нечага, і абураецца, што перапісаны гора-змагары за цяпло.

Такія жарсці разгуляліся напярэдадні Новага года ў зацішным Падсвіллі, дзе рызыкнулі змагацца кучай. І нават я, нечакана гледзячы на ўсё гэта, недзе ў глыбіні сваёй паэтычнай душы адчула зззяннне «помслівай» іскры, калі ўбачыла намесніка начальніка Глыбоцкай ЖКГ у атачэнні жанчын, якія ледзь не бралі яго за полы. Я ўсё яшчэ помню, як 8 гадоў таму ён прымусіў мяне аплаціць кватэрны доўг, які ляжаў не на мне. Так пазней растлумачылі мне ў юрыдычнай кансультацыі. Але гэта справа ўжо мастацкага пяра.

Яшчэ думаецца пра што? У нашым доме колькі дэпутатаў? І культработнік, і настаўніца... І для якой яны патрэбы, калі жыхары звяртаюцца на тэлебачанне?

А праблема ляжыць значна глыбей.

**Марыя Баравік, Падсвілле, Глыбоччына**

# Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці

Арцём ЛЯВА

**13 студзеня на Арт-сядзібе ўручылі прэмію «Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці».**

Прэмія, заснаваная Асамблея НДА, уручаецца ўжо шосты раз. Пераможцы вызначаліся па выніках супольнага падліку галасоў, пададзеных за намінантаў сябрамі рабочай групы Асамблеі (44 прадстаўнікі арганізацыяў), а таксама 56 запрошанымі экспертамі з ліку лідараў НДА, мінулагодніх пераможцаў.

У намінацыі «Грамадскі лідар года» перамаглі вядоўцы моўных шоў «Мова нанова», «Моваведа», «Мова тут» «Мова ці кава». На ўручэнні прызоў былі



Аляксей Шэін, Алена Шарамет і Валярына Кустава. Стваральнікі папулярных моўных курсаў зрабілі ў 2014 годзе вялікую супольную справу — у Мінску і ў рэгіёнах Беларусі істотна пашырылі беларускамоўную прастору.

У намінацыі «Кампанія года» перамагла кампанія «Пазнач сябе беларусам», арганізаваная камандай «Арт Сядзібы», у межах якой актыўна папулярызаваліся адзенне і стужкі з беларускім арнаментам. Пераможцамі ў намінацыі «Новая ініцыятыва» сталі ўдзельнікі ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў». Кампанію судовага ціску на ўлады, каб юрыдычна абараніць ахоўныя межы Курапатаў ад незаконнага скарачэння і забудовы, група экспертаў распачала ў 2014 годзе. Адбыліся чатыры рэзанансныя судовыя пасяджэнні, праектаванне забудовы ахоўнай зоны прыпынілася. Кіраўнік Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч, якая атрымлівала ўзнагароду, выказала падзяку ўсім, хто дапамагаў у высакароднай справе абароны ад забудовы месца расстрэлу і пахавання ахвяраў сталінскіх рэпрэсій.

У намінацыі «Рэгіянальная падзея» адзначаны Дзень памяці паўстанцаў 1863 году ў Свіслачы. Прысутныя заслухалі аўдыёзварот аднаго з арганізатараў грамадскай акцыі Юрыя Глебіка.

За нестандартны падыход да актуалізацыі значнай для грамадства тэмы ў намінацыі «Крэатыў года» перамагла акцыя салідарнасці футбольных фанатаў на матчы «Беларусь — Украіна» ў Барысаве.

«Гарбуз года» для Упраўлення па грамадзянству і міграцыі ГУУС Мінгарвыканкаму і Аддзелу па грамадзянству і міграцыі Першамайскага РУУС Мінска за ануляванне віду на жыхарства праваабаронцы Алены Танкачовай атрымалі юрысты Цэнтра прававой трансфармацыі «Lawtrend» Андрэй Сушко і Аляксей Казлюк.

Найлепшым сайтам НДА прызнаны nastaunik.info. Узнагароду атрымлівалі яго рэдактарка Вольга Мазурава і ідэйная натхняльніца Тамара Мацкевіч.

А за грунтоўнае і рознабаковае асвятленне грамадскай дзейнасці ў СМІ ў намінацыі «Журналіст года» чэмпіёнскім тытулам адзначаны журналіст НЧ Марат Гаравы.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 55

Падпісана да друку 16. 01.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.